www.nv-online.info

№ 3 (4152)

10 студзеня 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**




# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

АКТУАЛИИ



Светлана КАЛИНКИНА

# На дно!

Всего одна цифра. Расходы на секторы, которыми командует государство, как подсчитали экономисты, в январе–ноябре прошлого года (за декабрь статистика пока не обнародована, но вряд ли она способна сломить тенденцию) составили более 40 процентов ВВП.

Вдумайтесь!

ВВП – валовый внутренний продукт – это вся экономика страны. Это и каждый трактор, выпущенный на заводе, и каждый зуб, вылеченный стоматологом; это и каждый литр бензина, и каждый литр молока; это и стоимость стрижки, и стоимость новых микрорайонов. Так вот: каждый второй-третий рубль, который заработала национальная экономика, ушел в секторы госуправления!

Так как же мы можем жить хорошо, если у государства такие непомерные аппетиты?.. Откуда взяться тому богатству, если почти каждый второй рубль мы тратим на содержание тонущих госпредприятий, армии указующих, проверяющих, заседающих и при этом абсолютно ни за что не отвечающих чинуш?

Вопиющие примеры неэффективного государственного управления, доказывающие, что с такими менеджерами белорусы просто обречены на бедность, всплывают буквально каждый день. Вот «картинки» только по прошлой неделе.

Госконтроль проверил, как государственное предприятие «Миноблтопливо» освоило средства на организацию производства пеллет (топливных гранул). Выяснилось, что в Дзержинском районе закупленное в 2012 году за 140 тысяч долларов оборудование уже два года простаивает. Предприятие от нового производства несет одни лишь убытки хотя бы потому, что вынуждено при нем держать сторожей. В Вилейском филиале – ситуация аналогичная. В Клецком районе – тоже, хотя тут стоимость линии, приобретенной в 2011 году, в эквиваленте составляла около 811 тысяч долларов. Единственным работающим участком оказался участок по изготовлению топливных гранул в Воложинском филиале, да и то объемы выпускаемой продукции оказались символическими.

Если производство топливных гранул на самом деле невыгодно, хотелось бы узнать, кто инициировал и просчитывал этот проект, кто ответил за головотяпство, благодаря которому под экономически необоснованную авантюру были выделены государственные средства? Если выгодно – кто позволил новому оборудованию гнить и простаивать, при чьем попустительстве случился этот саботаж?..

Другой пример. Кричевский район, где кипят страсти из-за президентского указа о преобразовании колхозов. Людям выкручивают руки, чтобы они проголосовали за преобразование СПК в ОАО. В СПК «Колхоз имени Суворова» трижды проводили собрание, лично председатель райисполкома приезжал и давил. Но люди против. Они уже знают, чем чреваты такие преобразования. Пару лет назад их уже пытались присоединить к соседнему хозяйству, тоже угрожали, тоже давили, тоже ссылались на президентские указы. А потом то «передовое хозяйство» обанкротилось, а вот «суворовцы» выстояли и стали одним из лучших СПК района. И теперь у государства вновь появился зуд ими поруководить.

Один раз опозорились со своими «руководящими указаниями» – так извинитесь, посыпьте голову пеплом и оставьте людей в покое, дайте работать. Так ведь нет, чем же тогда «вертикали» заниматься, если не махать перстом указующим?

«Трутни они», – говорят в колхозе имени Суворова. А бизнесмен Александр Муравьев выразился еще резче – «твари». И это третий пример.

На прошлой неделе в суде прозвучало последнее слово бизнесмена Александра Муравьева, которого судят за невыполнение инвестиционного договора по «Мотовело» и стеклозаводу «Елизово». Оно достойно пространного цитирования, потому что оно – приговор системе.

*«В 2007 году государство тратило на «Мотовело» около 8 миллионов долларов в виде преференций и субсидий. Объем производства на одного человека составлял 8 тысяч долларов в год. А вот в «МВЗ Техно»* (филиал «Мотовело», созданный инвестором. – **Ред.**) *уровень производства на одного человека в год был 180 тысяч долларов,* – говорил Муравьев. *– Появились ростки правильной работы, были же умные люди, которые знали, как надо правильно... Моя речь замедлена в том числе потому, что я сам сдерживаю слова, которые хочу произнести... Твари они! Люди, которые только разрушают, прикрываясь, что якобы работают ради государства.*

*Сейчас такая тема – станки* (обвинение в мошенничестве против Муравьева построено на том, что инвестор не закупил станки для «Мотовело» на 12 миллионов долларов, как было записано в бизнес-плане. – **Ред.**). *Так вот, в 2007 году благодаря усилиям специалистов «Мотовело» были куплены станки за счет бюджетных денег. Дорогая измерительная установка. Покупали, устанавливали, бегали вокруг нее. А в результате интенсивность эксплуатации – ноль, полезная применимость – ноль. Зато место заняли, денег потратили и отчитались о покупке оборудования.*

*Интересный трубопрокатный стан купили в Италии. На момент покупки акций нами он не работал. Когда мы вступили в контакт с итальянцами, те выдвинули такой дополнительный платеж за неисполнение обязательств, что проще было новый станок купить. И еще в суд подали. Зато бригада специалистов бегала.*

*Так вот, эти специалисты долбаные предварительный список составляли для бизнес-плана. Уроды, а не специалисты. Они его так и составляли, потому что думали, что придет акционер, бабла насыплет, они еще напокупают станков и будут вокруг них заниматься физкультурой...»*

Практически все журналисты, работавшие в суде и следившие за этим процессом, – на стороне бизнесмена Муравьева. Инвестора связали по рукам и ногам «ценными указаниями и распоряжениями», а теперь еще и судят.

И, конечно, осудят, сомнений нет!

Но давайте задумаемся: на что мы отдаем почти каждый второй заработанный рубль? Ради кого и людей, и экономику душат налогами, поборами, тарифами, акцизами? Ради тех, кто гирей висит на ногах страны? Я даже сказала бы, висит камнем на шее. Потому что с такой государственной системой нам один путь – на дно.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Суд над гімназістам можа распачацца ў бліжэйшыя дні

*Не выключана, што працэс пройдзе ў адкрытым рэжыме.*

Нагадаем: раніцай 23 мая мінулага года вучань 74-й гімназіі Мінска напаў на 57-гадовую настаўніцу рускай мовы і літаратуры з нажом і нанёс ёй некалькі ўдараў у вобласць шыі. Педагог у цяжкім стане была дастаўлена ў бальніцу.

Там жанчыну прааперыравалі, а крыху пазней яна распавяла нашай газеце, што псіхолаг параіў ёй вярнуцца на працу ў гімназію, хаця сама яна на гэты конт тады яшчэ не вызначылася. Паводле нашай інфармацыі, пацярпелая настаўніца **Валянціна Губарэвіч** доўгі час лячылася, праходзіла рэабілітацыю, а затым вярнулася на працу ў тую ж самую гімназію.

Тым часам школьнік, які напаў на настаўніцу з нажом, прайшоў псіхолага-псіхіятрычную экспертызу, якая паказала, што малады чалавек у момант здзяйснення свайго ўчынку *"мог у поўнай меры ўсведамляць значэнне сваіх дзеянняў"*.

*"Судовы працэс можа распачацца напрыканцы гэтага месяца*, – распавяла "Народнай Волі" інфармаваная крыніца, блізкая да боку пацярпелай. *– І, наколькі вядома, суд можа быць адкрытым, нягледзячы на тое, што ў справе фігурыруе непаўналетні. Усё будзе залежаць ад рашэння суддзі, хаця адвакаты абвінавачанага выступаюць за закрыты разгляд справы"*.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СТОП-КАДР




*Рабочыя Мінскага трактарнага завода пасля першай змены. Для прадпрыемства 2017 год павінен скласціся як быццам няблага.*

## Што «свеціць» бізнесмену Мураўёву?

*30 студзеня ў судзе Фрунзенскага раёна сталіцы будзе вынесены прысуд бізнесмену Аляксандру Мураўёву.*

Нагадаем, што пракурор запатрабаваў для ўладальніка ААТ "Мотавела" і шклозавода "Ялізава" 12 гадоў зняволення з канфіскацыяй маёмасці – за махлярства, ухіленне ад падаткаў і садзейнічанне ў злачынстве.

Мураўёў з самага пачатку не прызнаў сваю віну.

РАЗВІТАННЕ



## Душа Антона Шукелойця пажадала небыцця

Той, хто хоць адзін раз сустракаўся з дзядзькам Антонам (так Шукелойця заўсёды называў Зянон Пазьняк), заўважаў у ім чыста беларускія рысы. Непатрабавальнасць да быту, сціпласць ва ўсім і ў той жа час гумарынка, якая раз-пораз выплывала з-пад яго раскошных вусоў. Як напісаў знакаміты наш зямляк-эмігрант Вітаўт Кіпель, у апошнія дні жыцця Антон Шукелойць любіў паўтараць словы Янкі Купалы:

*Прыстаў я жыць на белым сьвеце,*
*Хоць столькі ўвокала жыцьця,*
*Завялі думкі на расьцьвеце.*
*Душа жадае небыцьця.*

Душа Антона Шукелойця пажадала небыцця на 102-м годзе жыцця.

Ён нарадзіўся 16 ліпеня 1915 года на Ашмяншчыне. Скончыў аддзяленне славянскай філалогіі і этнаграфіі гуманітарнага факультэта Універсітэта Стэфана Баторыя ў Вільнюсе (1939). Пасля прыходу Саветаў працаваў настаўнікам на малой Радзіме, быў загадчыкам гарадскога аддзела народнай асветы і школьным інспектарам-метадыстам Ашмянскага раёна.

Падчас нацысцкай акупацыі працаваў у аддзеле асветы і культуры Мінскай гарадской управы. У 1944 годзе эмігрыраваў на Захад. На пачатку 50-х пераехаў у ЗША. Браў актыўны ўдзел у беларускім руху. Шматгадовы старшыня Беларуска-амерыканскага задзіночання.

ДУХОЎНАЯ ПОВЯЗЬ

# Алеся Кіпель – наш чалавек у ДзяржДэпартаменце ЗША

*Яна нарадзілася ў Нью-Джэрсі 4 студзеня 1957 года. Дачка Вітаўта і Зоры Кіпеляў, чые імёны непарыўна звязаны з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва і наўпрост асацыіруюцца з інтэлектуальным асяродкам беларускай эміграцыі ў ЗША. Двое яе дзядоў прайшлі праз рэпрэсіі і выжылі: журналіст і пісьменнік Лявон Савёнак, аўтар непаўторнага "Дзённіка Ів. Ів. Чужанінава", ды грамадскі дзеяч Яўхім Кіпель, пра поўнае драматызму жыццё якога можна даведацца з ягоных успамінаў "Эпізоды". Яе бабулі Марыя Кіпель і Апалонія Савёнак былі прафесійнымі настаўніцамі. Апалонія працавала з жонкай Янкі Купалы, была аўтаркай "Беларускага лемантара".*



*Уся гэтая спадчыннасць адыграла важную ролю ў жыцці паспяховай жанчыны-адваката, цяпер супрацоўніцы ДзяржДэпартамента ЗША, актыўнай дзеячкі Вашынгтонскага аддзела Беларуска-Амерыканскага задзіночання* ***Алесі КІПЕЛЬ.***

*Сябра Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына", яна, нягледзячы на высокія пасады і прафесійную занятасць, знаходзіць час і на беларускую дзейнасць, і на падарожжы, і на вялікую колькасць цікавых і карысных спраў. Знайшла час і на спатканне са мною...*

### Яе гасціннасць

*Я ехала ў Вашынгтон пасля колькіх дзён, праведзеных з Вітаўтам Кіпелем у хаце ягонага сына Юркі ў Нью-Джэрсі. Мы размаўлялі пра падрыхтоўку перавыдання кнігі "Беларусы ў ЗША", пра архівы і дакументы эміграцыі... І да Алесі Кіпель я ехала з ідэяй найперш пагутарыць пра бацьку.*

*Вольнага часу ў супрацоўніцы Дзяржэпартамента мала, але яна гасцінна запрасіла пажыць колькі дзён у яе хаце, займаючы сябе самастойна адведваннем цікавых месцаў перадкаляднай амерыканскай сталіцы. Удзень я выбіралася на праходкі па знакамітых мемарыялах і музеях Вашынгтона, а потым вярталася ў густоўна дэкараваную Алесіну хату, каб адпачыць у чаканні гаспадыні. Вечарамі, яшчэ да афіцыйнага запісу запланаванага інтэрв'ю, мы, калі атрымоўвалася, разам бавілі час у гасцёўні за бутэлькай чырвонага віна ці шампанскага, заядалі яго арыгінальным двоістым сырам (адразу двух гатункаў) і размаўлялі пра жыццё, падарожжы, людзей... Так і высветлілася, што ў маёй суразмоўцы хутка 60-гадовы юбілей, і з'явілася думка апублікаваць запісанае інтэрв'ю менавіта пад гэтую нагоду.*

### Сям'я і дзяцінства

*Мы гутарылі за вялікім сталом у пакоі з акном на ўсю сцяну і выйсцем на тэрасу. За плячыма ў Алесі вісеў будзьмаўскі каляндар на 2016 год. Новы, на наступны год, я якраз прывезла ёй у падарунак разам з беларускай каляднай гарбатай. У пакоі шмат рэчаў, звязаных з Беларуссю, і, канечне, кнігі дзённікаў маці і ўспамінаў бацькі...*

– Нас з братам Юркам гадавалі ўсе: і мама, і тата, і бабка ды дзед Кіпелі, і бабка ды дзед Савёнкі. З Кіпелямі мы жылі ў адной хаце доўга. Марыя Кіпель была наймаладзейшая з нашых бабак-дзядоў, і з ёй былі найбольш цесныя сувязі ад самага нашага дзяцінства да ейнай смерці. Мама і тата працавалі, а бабка Марыя была дома. То, як мы прыходзілі са школы, з ёю заўсёды гутаркі былі. І яна многа ўплывала на нас. А Савёнкі мелі маёмасць у паднёвым Нью-Джэрсі, дзе перш гадавалі курэй, а тады агарод вялікі мелі, дык Юрка і я цэлае лета там сядзелі. І кантакты з імі блізкія таксама мелі.

**– А што давалі гэтыя кантакты з дзядамі ды бабулямі?**

– Яны былі ўсе розныя. Дзед Кіпель быў строгі, а Савёнак меў пачуццё гумару. Яму прысылалі часопіс "Крокодил", і ён заўсёды смяяўся, пераказваючы, што там пісалі. Ягоныя гутаркі былі вельмі цікавыя.

Яўхім Кіпель памёр, калі мы былі зусім малыя. А з бабкамі зусім інакшыя адносіны былі. Абедзве былыя настаўніцы, дык, канечне, яны ведалі, як з дзецьмі ладзіць. Асабліва ў Марыі Кіпель мы параду заўсёды шукалі. Лягчэй бабцы было сказаць, што нешта не так, каб яна потым бацькам тлумачыла.

Але яны ўсе былі беларускія патрыёты, і, канечне, ўсё беларускае яны нам перадалі. Асабліва ўяўленні пра беларускую прыроду. Гэта была частка нашых уяўленняў пра тое, што такое Беларусь.

(Заканчэнне на 6-й стар.)

Никого мы не теряем,
коллега.
Снимем крестик —
должно помочь!

ГЛАЗАМИ ХУДОЖНИКА

В канун уходящего года в Беларуси широко обсуждалась новая инициатива Минздрава запретить врачам пользоваться яркой косметикой, резкими духами, носить одежду из прозрачных тканей, шейные платки, крупные украшения и... крестики.

Запрет на крестики вызвал резкую критику со стороны православной и католической церкви, и Минздрав отступил: из постановления ведомства о нормах медицинской этики и деонтологии исключен абзац о недопустимости «*явной демонстрации своей религиозной принадлежности, открытого ношения религиозных знаков и символов*».

*Рисунок*
**Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

УЧОРА

## У Беларусь без візы!

*Бязвізавы парадак уезду ў нашу краіну устанаўліваецца на тэрмін не больш за 5 сутак пры ўездзе праз пункт пропуску «Нацыянальны аэрапорт Мінск» для грамадзян 80 краін. Адпаведны ўказ 9 студзеня падпісаў А.Лукашэнка.*

Дакумент распаўсюджваецца на 39 краін Еўропы, уключаючы ўвесь Еўрасаюз, а таксама Бразілію, Інданезію, ЗША, Японію, Індыю, Кітай, Гаіці і іншыя дзяржавы. Новыя правілы ахопліваюць таксама такую катэгорыю, як неграмадзяне Латвіі і асобы без грамадзянства Эстоніі.

Як адзначае прэс-служба кіраўніка дзяржавы, дакумент накіраваны на актывізацыю падарожжаў бізнесменаў, турыстаў, прыватных асоб, якія маюць агульнаграмадзянскія пашпарты, і не будзе распаўсюджвацца на замежнікаў, якія ажыццяўляюць службовыя паездкі: дыпламатычныя, службовыя, спецыяльныя і іншыя прыраўнаваныя да іх пашпарты пад увагу прымацца не будуць.

Што цікава: для ўезду ў бязвізавым рэжыме іншаземцу не трэба мець пры сабе многа грошай – на кожны дзень знаходжання суму ў валюце або ў беларускіх рублях, эквівалентную не менш як дзвюм базавым велічыням, сёння гэта крыху больш за 20 долараў. Таксама патрабуецца медыцынскі страхавы поліс на суму не менш за 10 тысяч еўра, які дзейнічае ў Беларусі.

ФАКТ

## Пад нож…

*Спецпрадпрыемства Нацбанка ўтылізуе 10 вагонаў «старых» грошай.*

**З Новага года яны цалкам зніклі з абароту, але, як вядома, іх яшчэ можна абмяняць у банках.**

Што цікава, у Нацбанку кажуць, што ад банкнотаў наміналам 50, 100 і 200 тысяч рублёў беларусы "пазбавіліся" ў першую чаргу. Купюры вартасцю 5, 10 і 20 тысяч выведзены з абароту на 72%. А дзве трэці дробных грошай (100, 500 і 1000 рублёў) яшчэ знаходзяцца на руках у грамадзян. Практыка паказвае, што ў касы цэнтральных банкаў вяртаецца толькі палова такіх купюр.

ДЗІКУНСТВА!

## Дапіліся…

*У Шчучынскім раёне ў аграгарадку Ражанка 48-гадовы мужчына падпаліў сваю 78-гадовую маці, бо яна піла яго алкаголь.*

Як расказаў **Яраслаў Васілеўскі**, афіцыйны прадстаўнік УУС Гродзенскага аблвыканкама, спачатку яны разам з сяброўкай маці распівалі алкагольныя напоі. Пазней мужчына пайшоў спаць, а калі прачнуўся, пабачыў, што сяброўка сышла, а маці, лежачы на ложку, п'е яго алкаголь.

Вясковец ашалеў ад убачанага, узяў запалкі, падпаліў ложак маці і пайшоў спаць. Калі прачнуўся ў наступны раз, пакой быў поўны дыму. Мужчына зразумеў, што нарабіў, і паспеў вынесці маці з будынка. Жанчына жывая, у яе апёкі ног.

У адносінах да выпівохі распачата крымінальная справа па артыкуле «Наўмыснае нанясенне цяжкіх цялесных пашкоджанняў».

ТЕМА ДНЯ

# Чтобы не было в стране тунеядцев…

| (В млн. человек) | 1939 г. | 1959 г. | 1970 г. | 1980 г. | 1990 г. | 2004 г. | 2014 г. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Трудовые ресурсы – всего | 4658 | 4447 | 4950 | 5808 | 5948 | 6005 | 5989 |
| Экономически активное население | 2373 | 3156 | 4104 | 4959 | 5151 | 4537 | 4569 |
| Занятое население | 2373 | 3156 | 4104 | 4959 | 5151 | 4441 | 4486 |
| Экономически неактивное население | 2285 | 1271 | 846 | 889 | 815 | 1468 | 1420 |

20 октября 2014 года…

А.Г.Лукашенко поднимает проблему так называемых тунеядцев. Он тогда сказал: «Как мне докладывают, около 500 тысяч наших граждан не задействованы в экономике страны. Пусть 100 тысяч – это домашние хозяйки и те, кто трудится в собственном хозяйстве. А 400 тысяч чем занимаются? За чей счет живут?»

Что и говорить, есть вопрос. И он возник не вчера и не позавчера. Об этом свидетельствуют цифры, характеризующие структуру и динамику трудовых ресурсов Беларуси, скажем, за последние семьдесят с лишним лет. (*Посмотрите на таблицу сверху).*

В 1950-х годах более 1,5 миллиона человек по оргнабору уехало из Беларуси на стройки Сибири, Севера, Казахстана и другие. В стране было недостаточно рабочих мест. Период с 1970-го по 1990 год можно считать периодом полной занятости населения. За эти 20 лет экономически неактивное население держалось в границах 840 тысяч человек. Поясним, что и экономически неактивным населению относятся учащиеся в трудоспособном возрасте, а также лица, занятые ведением домашнего хозяйства, уходом за детьми, больными родственниками, другие, которым нет необходимости работать независимо от источников дохода.

Сколько их, этих «других»? По моим расчетам, в 1970–1990 годах их было 300–400 тысяч. Они как тогда, так и сейчас не жили в одном городе или селе. Найти каждого не составит труда. Они не представляют социальной опасности и проблемы.

В 1959 году число «других» достигло одного миллиона 271 тысячи человек. Это уже была критическая, социально опасная масса населения. Ее надо было занять, дать рабочие места. Проблему решили, сделав Беларусь «сборочным цехом» Советского Союза.

Как решили? Госплан и ведомства республики разработали стратегию развития народного хозяйства и особенно промышленности до 1980 года. На совещании партактива республики, которое проводил Н.С.Хрущев, руководители городов и районов дали объективную характеристику безработицы и низкого уровня жизни населения. Особенно сложная обстановка складывалась в Барановичах, Кобрине, Бресте, Иваново, Антополе, Пинске, Лунинце, Микашевичах – это маршрут, по которому мне пришлось проехать по заданию руководства Госплана республики, чтобы собрать материал о занятости населения и возможных местах строительства предприятий. В Лунинце закрыли паровозное депо, перешли на тепловозную тягу, и более 300 квалифицированных рабочих остались без работы. Впоследствии в Лунинце разместили предприятие электротехнического профиля. Оно работает и в настоящее время. В одном из райкомов партии несколько рабочих сдали партбилеты – «не можете дать работу – выхожу из партии». Это был острый сигнал для властей. В других городах были свои проблемы. Руководители республики, городские, районные власти сумели донести остроту проблемы до Н.С.Хрущева. Еще один Новочеркасск никому не был нужен.

Детальный анализ занятости населения, его структуры по данным переписи населения 1959 года по Брестской и Гродненской областям и их районам с установлением численности занятых в личном подсобном и домашнем хозяйствах, общая характеристика занятости в стране были изложены в документе правительства Беларуси. Там же были даны предложения о размещении конкретных предприятий в таких проблемных городах Беларуси. Все предложения были включены в очередной пятилетний план и реализованы.

Проблема занятости – комплексная проблема. Сводить ее к ловле «тунеядцев» – значит не понимать сути как социального состояния современного общества, так и состояния его экономики, особенно реальной экономики. Экономически неактивное население Беларуси в 2000 году составляло один миллион 468 тысяч, а в 2014 году – один миллион 420 тысяч человек. В 2004–2007 годах оно было на уровне один миллион 750 тысяч человек. Такое количество экономически неактивного населения – это прямая угроза социальной безопасности общества и государства.

Структура этой категории населения должна быть расписана и учтена количественно по составляющим как можно подробнее. Учащиеся в трудоспособном возрасте – экономически неактивные? Да, они сегодня не заняты в экономике, не производят продукт или услугу. Но они социально активны, завтра же их активность может проявиться не только в экономике… Сколько их перейдет в категорию «тунеядцы»? Того же следует ожидать от каждой группы населения, образующей структуру «экономически неактивного населения». Не о 400 тысячах «тунеядцев» надо вести речь, а где-то о 1,5–2 миллионах человек. Узкий взгляд на проблему и ее решение может вызвать если не Майдан, то подобие «рельсовой войны» – взрывы социального недовольства не исключены во многих местах. Беларусь ведь партизанка.

Нынешние руководители государства, высшие должностные лица обязаны знать все нюансы проблемы, держать особо острые вопросы на постоянном контроле. Из своего опыта знаю, что когдатошний председатель Госплана БССР С.Н.Малинин владел проблемой занятости довольно глубоко. Понимали не только суть, но и главные детали проблемы занятости в стране К.Т.Мазуров и Т.Я.Киселев. С другой стороны, ученые, специалисты определенных сфер должны систематически доносить до руководителей всех рангов как суть проблемы, эволюцию, так и возможные ее последствия.

В 1983 году мною были направлены на имя Н.Н.Слюнькова (первого секретаря ЦК КПБ) предложения по решению проблем занятости людей и корректировке стратегии развития промышленности страны. Многие из них остаются актуальными и по сегодняшний день. Назревшие вопросы нужно решать в комплексе, а не гоняться только за «тунеядцами».

**Леонгард ЧЕРНЫШ, доктор экономических наук.**

РЭГІСТРАТУРА

## Ці назіраецца ў Беларусі ўздым вірусных захворванняў?

Намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення арганізацыі медыцынскай дапамогі Міністэрства аховы здароўя **Людміла Жылевіч** супакойвае: узровень захворвання на грып намнога ніжэйшы за мінулагодні. «*На сёння ёсць толькі спарадычныя выпадкі грыпу A(H3N2)*, – паведаміла яна. І нагадала, што восенню было вакцынавана амаль 40 працэнтаў беларусаў, таму ёсць надзея, што эпідэміі не будзе.

Але ж вірус A(H3N2), які лабараторна дыягнастуецца, – ганконгскі грып, ім ужо пужалі беларусаў: супраць яго нібыта няма імунітэту ў насельніцтва, таму хварэць на яго будуць многія і цяжка. Праўда, кіраўнік Нацыянальнага цэнтра па грыпе, кандыдат медыцынскіх навук, дацэнт **Наталля Грыбкова** ў інтэрв'ю "Народнай Волі" тлумачыла, што сёння цыркулююць "праўнукі" ганконгскага віруса, які з'явіўся ў 1968 годзе. "*Розныя пакаленні людзей з ім ужо сустракаліся, і імунная сістэма ў большасці дарослых будзе гатовая да сустрэчы з гэтым вірусам*, – заўважыла спецыяліст, звярнуўшы ўвагу на тое, што абараніць людзей ад захворвання на грып, знізіць цяжкасць захворвання і паменшыць верагоднасць развіцця постгрыпозных ускладненняў дапаможа менавіта вакцынацыя. "*У гэтым сезоне яна накіравана на выпрацоўку імунітэту менавіта ў адносінах да дадзенага штаму вірусаў – грыпу A(H3N2)*", – удакладніла Наталля Грыбкова.

Што тычыцца іншай прафілактыкі грыпу, то яна традыцыйная. Перш за ўсё харчаванне мусіць быць рацыянальным: ежа павінна быць вітамінізаванай, асабліва багатай на вітаміны A, $B_1$, C, а таксама асноўныя рэчывы – бялкі, вугляводы, мікраэлементы, у рацыён павінна быць уключана садавіна, у саставе якой ёсць вітамін C, а таксама рыбныя і малочныя стравы. Пажадана не бываць у шматлюдных месцах. Абавязкова сістэматычна праветрываць кватэру і рабочае памяшканне, часцей гуляць па свежым паветры. Пры кантакце з хворым чалавекам трэба выкарыстоўваць медыцынскія маскі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПРОГНОЗЫ

## Зарплаты в 500 долларов не будет…

Александр Лукашенко поставил задачу, чтобы в этом году средняя зарплата выросла до 500 долларов. Независимые экономисты считают эту задачу нереальной. Чтобы достичь этого показателя, должен быть огромный рост производительности труда, экономический рост.

«2016 год с точки зрения населения оказался провальным, – *считают аналитики зарегистрированного в Вильнюсе Независимого института социально-экономических и политических исследований.*

. – Население о результатах года судит, естественно, по состоянию своих кошельков. У государства иные критерии для оценки результатов прошедшего года. Социально-политической стабильности и монополии на власть никто реально не угрожал, поэтому на твердую четверку по пятибалльной системе 2016 год вполне может рассчитывать. Учитывая, что из всех возможных сценариев на 2017 год в Беларуси выбран инерционный, многое по-прежнему будет зависеть от России. Мнения белорусских экспертов по поводу ближайших экономических перспектив национальной экономики противоречивы. Кто-то уже заметил первые ростки возобновления роста, а кто-то, напротив, предсказывает развитие событий по тревожному сценарию. Но даже в случае относительно благоприятной внешней конъюнктуры рассчитывать на среднюю зарплату в 500 долларов белорусам не придется. Более того, если правительство всерьез примется за реализацию этой масштабной задачи, то тем самым поставит крест не только на финансовой стабильности, но, не исключено, и на стабильности социально-политической».

## …Но на площадь с акциями протеста в Беларуси никто не выйдет

«Столетний юбилей Октября, который будет отмечаться в этом году, – отличный повод для обсуждения протестного потенциала белорусского общества, – *считают аналитики НИСЭПИ*. – К сожалению, невозможность проведения независимых социологических исследований в Беларуси превращает разговоры на эту тему в своеобразные гадания на кофейной гуще. Тем не менее о переходе общества из состояния политической апатии в состояние политического возбуждения говорить пока рано. Внутренний ресурс стабильности белорусской модели еще далек от исчерпания».

*По мнению аналитиков НИСЭПИ, в этом году белорусские власти по-прежнему будут налаживать контакты с Западом.*

«Будем надеяться, что это приведет к некоторому ослаблению гаек внутри Беларуси, – *говорят эксперты*. – Но реальных экономических выгод из прозападной политики А.Лукашенко извлечь не сможет, что и подтвердит дальнейшее снижение прямых иностранных инвестиций».

**Марина КОКТЫШ.**

ДАКАР-2017

# Беларусы спадзяюцца адыграць страчанае месца

*Усе тры беларускія экіпажы працягваюць удзел у сусветна вядомым ралі*

Этапы марафону "Дакар-2017" па тэрыторыі Балівіі сталі выпрабаваннем для людзей і тэхнікі: за некалькі дзён з гонкі выбыла пятая частка гоншчыкаў – каля 70 удзельнікаў у розных катэгорыях. Ліўні паставілі арганізатараў "Дакара" перад дылемай: рызыкаваць жыццямі гоншчыкаў або лёсам самога ралі. Рашэнне было прадказальным: пяты спецучастак скарацілі, а шосты этап і зусім адмянілі. Калі ўлічыць, што пасля яго быў запланаваны дзень адпачынку, то ўдзельнікі засталіся без гонкі на двое сутак. МАЗаўскія экіпажы такое рашэнне не моцна ўзрадавала. «*Спецучасткі ў Балівіі складаныя, на іх можна паказаць сваё майстэрства і нагнаць упушчанае. Кожны раз, калі арганізатары адмяняюць або скарачаюць спецучасткі, гэта пазбаўляе нас яшчэ адной магчымасці пазмагацца за месцы ў першай дзясятцы*», – адзначыў кіраўнік каманды і пілот **Сяргей Вязовіч**.

Зараз найлепшыя пазіцыі ў абсалютным заліку сярод беларусаў у экіпажа Аляксандра Васілеўскага, які знаходзіцца на 11-м месцы з адставаннем ад лідара гонкі ў 1 гадзіну 13 хвілін. Каманда Сяргея Вязовіча ўзнялася з 21-га на 17-ты радок і цяпер саступае 3 гадзіны 24 хвіліны. Экіпаж Аляксея Вішнеўскага ідзе 20-м, «спазняючыся» на 4 гадзіны 35 хвілін. Першае месца ў турнірнай табліцы займае Жэрар дэ Рой на Iveco, другое і трэцяе – камазаўцы Эдуард Ніколаеў і Дзмітрый Сотнікаў.

«*Мы ўсе чакаем наступных этапаў і спадзяёмся, што арганізатары іх не адменяць у сувязі з даждлівым надвор'ем. Для нас гэта добрая магчымасць вярнуць страчаныя на чацвёртым этапе пазіцыі. Аляксандр Васілеўскі пастараецца ўпэўнена, ва ўласцівым яму тэмпе ўвайсці ў першую дзясятку, астатнім двум экіпажам трэба дзейнічаць больш рашуча і скарачаць адставанне, каб таксама падабрацца да лідараў*», – адзначылі ў камандзе.

Як вядома, Мінскі аўтазавод удзельнічае ў гонцы «Дакар» ужо ў шосты раз. Ралі-рэйд праходзіць з 2 па 14 студзеня па тэрыторыях трох краін – Аргенціны, Балівіі і Парагвая. Працягласць маршруту складае прыблізна 9 тысяч кіламетраў. У класе грузавікоў у ралі бяруць удзел 50 экіпажаў. Асноўнымі канкурэнтамі беларусаў выступаюць КамАЗ, Iveco, MAN, Renault і Tatra.

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

## 18 аштрафаваных за ўшанаванне паўстанцаў Каліноўскага

Свіслацкім раённым судом без прысутнасці падсудных былі вынесены чарговыя рашэнні па справах за ўдзел у традыцыйным Дні памяці паўстанцаў 1863 года, які прайшоў 31 кастрычніка ў Свіслачы. Гэтым разам штрафам агулам 38 базавых велічынь былі пакараны старшыня руху "За Свабоду" **Юрый Губарэвіч** (25 б.в), каардынатар руху ў Брэсцкай вобласці **Юрый Казакевіч** (10 б.в.) і актывіст арганізацыі **Вадзім Бабін**, да якога суд паставіўся "літасціва" і аштрафаваў па мінімуме – на тры базавыя велічыні.

Гродзенскія праваабаронцы падлічылі, што за ўшанаванне паўстанцаў Каліноўскага ў Свіслачы раней былі асуджаны 15 актывістаў з розных гарадоў Беларусі. Цяпер да іх дадаліся яшчэ трое – Губарэвіч, Казакевіч і Бабін. Штрафы выпісваюць розныя – ад 3 да 50 базавых велічынь.

**Юрый Губарэвіч** расказаў, што позвы ў суд яму і не дасылалі, толькі тэлефанавалі са Свіслацкага суда, але паколькі сувязь была вельмі дрэнная і сутнасці размовы ён не зразумеў, то папрасіў даслаць позву. Не даслалі і ездзілі. **Юрый Казакевіч** атрымаў запрашэнне ў суд праз SMS. У Свіслач ён не паехаў, а пазней праз пошту атрымаў рашэнне суда і быў шакіраваны і абураны:

– *З рашэння вынікала, што я часткова прызнаў сваю віну*, – кажа Казакевіч. – *Але ж за два месяцы ніводзін прадстаўнік праваахоўных органаў не задаў мне ніводнага пытання, я ні з кім не размаўляў. Адкуль яны ўзялі, што я часткова прызнаў сваю віну?! І яшчэ далі штраф 10 базавых велічынь... І ўвогуле, якую віну?! Яшчэ неяк можна зразумець, калі судзяць тых, хто выходзіць на плошчу, але калі судзяць за тое, што людзі ў памінальныя дні прыходзяць да магіл, кладуць там кветкі, запальваюць знічкі, калі людзі памінаюць сваіх продкаў, сваіх герояў і ідуць да помніка Каліноўскаму, які, між іншым, пастаўлены самімі ж уладамі, – за што тут судзяць людзей? За тое, што мы шануем нашу гісторыю і нашых нацыянальных герояў?!*

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

НЕЛЬГА МАЎЧАЦЬ...

# Хто зарабляе на «спажывецкім экстрэмізме»?

*У Беларусі з'явіліся камерцыйныя структуры, якія займаюцца маніторынгам гандлёвых аб'ектаў з элементамі шантажу.*

Як аказалася, схему для свайго бізнесу некаторыя прадстаўнікі "абароны правоў спажыўцоў" абралі даволі простую. Рэгіструецца камерцыйная структура, а далей – справа тэхнікі. Напрыклад, прыходзіць прадстаўнік, умоўна кажучы, фірмы "Наша падтрымка спажыўца" на гандлёвы аб'ект і знаходзіць там якое-небудзь парушэнне. Дырэктару магазіна прапануюць кампраміс: у санстанцыю альбо гандлёвую інспекцыю яны не будуць нічога паведамляць, але пры ўмове аплаты перападрыхтоўкі на курсах, якія праводзіць тая самая фірма. І, калі ў Мінску такіх кантралёраў могуць паслаць, куды Макар цялят не ганяў, то ў рэгіёнах схема ў асноўным спрацоўвае.

*"На тэрыторыі Беларусі зарэгістраваны і ажыццяўляюць дзейнасць каля 30 камерцыйных прадпрыемстваў пад рознымі спажывецкімі назвамі,* – распавёў "Народнай Волі" старшыня Пухавіцкай раённай арганізацыі ГА "Беларускае таварыства абароны *спажыўцоў*" **Васіль ВАЛАСЮК**. – *Толькі за апошні час наш раён наведалі прадстаўнікі 20 арганізацый, якія правялі каля 200 праверак без дакументальнага афармлення. Бо што такое маніторынг гандлёвых аб'ектаў? Праверка, якая павінна праводзіцца пры наяўнасці скаргі. Калі паводле вынікаў маніторынгу складзены акт праверкі альбо пратакол аб адміністрацыйным парушэнні, то магазін можа, напрыклад, звярнуцца ў адпаведныя інстанцыі альбо ў суд. Правяраючыя могуць даць прадпісанне аб ліквідацыі недахопаў на працягу 14 дзён, магазін выконвае гэта. Калі не хоча выконваць, то тады ўжо прымаюцца меры адміністрацыйнага ўздзеяння. Але, як бачым, камерсанты знайшлі іншы спосаб "уздзеяння" на адміністрацыю магазіна. Даволі лёгкі спосаб атрымання хуткіх грошай".*

Паводле слоў прадстаўніка Беларускага таварыства абароны *спажыўцоў, складзены спіс камерцыйных структур, якія займаюцца такім "спажывецкім экстрэмізмам", а таксама спіс "абураных спажыўцоў". Аказваецца, ёсць і такія. Гэтыя людзі прысутнічаюць падчас праверак і, калі адміністрацыя адмаўляецца пералічыць грошы "спажывецкай" фірме, то ў бой кідаюць "абуранага спажыўца", які піша скаргу ў Кнігу заўваг і прапаноў альбо паведамляе пра нейкія факты ў санстанцыю. Таксама не самы лепшы варыянт для гандлёвага аб'екта, і на гэта, уласна кажучы, разлік камерцыйных фірмаў.*

*"Паўтаруся, што парадак планавых і пазапланавых праверак строга рэгламентаваны,* – дадае Васіль Валасюк. – *Падчас іх кантралёр павінен прад'явіць прадпісанне, зрабіць адпаведны запіс у кнігу праверак. Фірмы гэта ў асноўным не робяць. Пытанне барацьбы са "спажывецкім экстрэмізмам" мы неаднойчы абмяркоўвалі на ўзроўні Міністэрства антыманапольнага рэгулявання і гандлю, зараз распавялі пра сітуацыю, якая склалася ў нашым раёне, старшыні Мінскага аблвыканкама Сямёну Шапіру. Факты незаконных праверак накіроўваліся таксама ў аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі і пракуратуру. Калі розныя так званыя "спажывецкія" фірмы дзейнічаюць не па законе, то, можа, варта было б на іх звярнуць увагу? Каб не дыскрэдытавалі рух у абарону правоў спажыўцоў у цэлым. Ды і самім работнікам гандлю трэба быць больш адукаванымі ў гэтым плане..."*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЗАКУЛІССЕ

# Домрачава прыехала на этап Кубка свету з дачкой

Нагадаем, што 1 кастрычніка мінулага года вядомая беларуская біятланістка **Дар'я Домрачава** нарадзіла дачку Ксенію, а ўжо 6 студзеня стартавала падчас этапа Кубка свету ў Аберхофе. Гэта былі яе першыя афіцыйныя спаборніцтвы ў новым сезоне пасля родаў.

Трэба сказаць, што Домрачава вырашыла, як кажуць, "не браць з месца ў кар'ер", а таму яе вынікі пакуль далёкія ад чэмпіёнскіх. У спрынце Дар'я заняла 37-е месца, у гонцы праследавання – 34-е. Але як ёй удаецца даглядаць трохмесячную дачку і браць удзел у міжнародных спаборніцтвах?!

*"Зараз я нясу адказнасць яшчэ за аднаго маленькага чалавечка і двойчы думаю, вырашаючы арганізацыйныя пытанні*, – распавяла спартсменка ў інтэрв'ю тэлеканалу Міжнароднага саюза біятланістаў. – *На шчасце, у мяне ёсць цудоўныя памочнікі. У Аберхофе прысутнічала мая мама, а на наступны этап Кубка прыедзе няня. Так што падчас трэніровак і гонак я магу быць спакойная".*




Дарэчы, можа дапамагаць у дагляданні дачкі і бацька – вядомы нарвежскі біятланіст Оле-Эйнар Б'ёрндален. Ва ўсялякім разе мужчынскія і жаночыя спаборніцтвы на этапах Кубка свету праходзяць у розны час.

**Алесь СІВЫ.**



ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Чые тэлефоны былі на праслушцы?

Памятаеце справу аб праслухоўванні журналістаў у 2015-м? 29 кастрычніка 2015 года інфармагенцтва БЕЛТА са спасылкай на КДБ Беларусі паведамляла пра затрыманне злачыннай групы, члены якой тры гады праслухоўвалі памяшканні, тэлефонныя перамовы Skype, Viber і WhatsApp дзяржаўных чыноўнікаў, супрацоўнікаў МУС, МНС, а таксама журналістаў дзяржаўных і недзяржаўных СМІ.

Тады многія людзі называлі інфармацыю сенсацыяй і чакалі гучнага судовага працэсу над затрыманымі, змешчанымі ў СІЗА. Аднак больш чым праз год даведацца, на якім этапе знаходзіцца расследаванне і ці сапраўды злачынцаў чакае суд, так і не ўдалося.

Першы намеснік старшыні КДБ **Ігар Сергяенка** ў адказе на зварот ГА "БАЖ" паведаміў, што дадзеныя папярэдняга следства не распаўсюджваюцца.

Паведаміць хоць нейкія акалічнасці справы адмовіўся па тэлефоне і афіцыйны прадстаўнік камітэта **Дзмітрый Пабяржын**. У сувязі з гэтым некаторыя эксперты мяркуюць, што гучная справа можа так і не дайсці да суда.

МАЗАІКА

## Каго не пусцяць на футбол?

Спіс фанатаў-хуліганаў, якіх не будуць пускаць на футбол, выставяць на сайце Міністэрства ўнутраных спраў.

Паводле слоў старшыні пастаяннай камісіі па нацыянальнай бяспецы Палаты прадстаўнікоў **Валянціна Міхневіча,** забарона можа быць уведзена ў адпаведнасці з папраўкамі ў некаторыя законы Беларусі па пытаннях аховы грамадскага парадку. Рашэнні аб забароне на наведванне спартыўных мерапрыемстваў будуць прымаць толькі суды.

Тэрмін дзеяння забароны можа скласці ад трох месяцаў да трох гадоў. Прадугледжана адказнасць і за яго парушэнне – гэта штраф ад 2 да 20 базавых велічынь (цяпер 1 базавая велічыня складае 23 рублі).

Адпаведныя папраўкі ў заканадаўства могуць прыняць падчас вясновай сесіі Палаты прадстаўнікоў.

АБІТУРЫЕНТ-2017

# Чатыры тэсты і ў педуніверсітэт без экзаменаў

*У Беларусі змяняюцца правілы прыёму ва ўстановы вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі. Адпаведны ўказ падпісаў Аляксандр Лукашэнка.*

Асноўныя новаўвядзенні – магчымасць здачы цэнтралізаванага тэсціравання па чатырох вучэбных прадметах і павелічэнне тэрміну дзеяння сертыфікатаў ЦТ да двух гадоў. Таксама з аднаго да трох павялічана колькасць рэзервовых дзён ЦТ.

Магчымасць пісаць чатыры тэсты пашырае выбар абітурыента, куды, на якую спецыяльнасць падаваць дакументы, бо тры прадметы па ЦТ звужвалі гэтае кола. Прычым раней чыноўнікі ад адукацыі, наадварот, выказваліся супраць чатырох тэстаў: маўляў, тады абітурыент робіць несвядомы выбар, кідаецца з боку ў бок, ад спецыяльнасці да спецыяльнасці і паступае не ў адпаведнасці са сваімі здольнасцямі, а куды хапае балаў.

Трэба заўважыць, што хоць сёлета абітурыенты змогуць пісаць чатыры тэсты, залічэнне ў ВНУ па-ранейшаму будзе праводзіцца па выніках усё тых жа трох тэстаў, у ліку якіх тэст па дзяржаўнай (беларускай ці рускай) мове з'яўляецца абавязковым.

Што яшчэ новага ўтрымлівае ўказ А.Лукашэнкі? У адпаведнасці з дакументам уводзяцца льготы для выпускнікоў профільных класаў педагагічнага кірунку пры паступленні на педагагічныя спецыяльнасці. Залічэнне на дзённую бюджэтную форму атрымання вышэйшай педагагічнай адукацыі выпускнікоў такіх класаў будзе праходзіць паводле вынікаў сумоўя, але пры гэтым тэрмін наступнай абавязковай адпрацоўкі па размеркаванні складзе не менш за пяць гадоў.

Акрамя таго, створаны роўныя ўмовы конкурсу пры паступленні на сельскагаспадарчыя спецыяльнасці ва ўсе ўстановы вышэйшай адукацыі. Для тых, хто паступае ў скарочаны тэрмін ва ўстановы вышэйшай адукацыі ўсіх профіляў, прадугледжаны два ўступныя іспыты па дысцыплінах вучэбнага плана сярэдняй спецыяльнай адукацыі, што вызначаюцца прыёмнай камісіяй ВНУ.

ОСОБЫЙ ВЗГЛЯД

# Правда жизни

Вспоминаются юбилейные торжества в честь 70-летия освобождения Беларуси. Лозунгами, украшавшими в те дни города и поселки, были: «Подвиг народа бессмертен», «Никто не забыт и ничто не забыто». И в этом направлении многое делается молодежными и воинскими поисковиками, стремящимися восстановить имена безызвестных героев. Да и в архивах семей бережно хранятся письма с фронта, военные фотографии родных людей.

Все это правильно и, бесспорно, очень нужно. Но, рассказывая о массовом героизме народа, патриотизме и преданности Родине, надо больше говорить молодежи, знающей о войне только по фильмам, книгам, фотографиям о суровой правде тех лет, о цене, заплаченной за свободу и Победу. Почему-то замалчиваются те страницы истории, которые содержат многочисленные факты преступной политики Ленина, Сталина, других большевистских вождей. Это они, посулившие всеобщее благоденствие и светлое будущее, разорили до основания по принципу «отнять и разделить», превратили людей в винтики. А сколько миллионов человеческих жизней было загублено в ГУЛАГах и различных Куропатах!

Мой отец, Флор Антонович Пашенко, принимавший участие в освобождении Западной Украины и Беларуси, в бесславной и трагической финской войне, в подпольном движении в г.Минске и в партизанской борьбе с фашистами, как и многие его сверстники, не любил говорить о войне, о ее правде, о ее буднях. И сейчас об этом говорится немного. Хотя рассказ о конкретных известных и неизвестных героях и предателях, о судьбе отдельного человека на войне отложится в душе молодого человека, наверное, не менее ярко, чем посещение, к примеру, «Линии Сталина». Не зря так точно, языком художественных образов доносилась талантливыми авторами до любого поколения правда о войне в фильмах «Баллада о солдате», «Судьба человека», «Летят журавли», «Они сражались за Родину», «Горячий снег», в книгах В.Быкова и других.

Из моего послевоенного детства в памяти остались два ярких эпизода.

…В 1944 году, после освобождения Минска, приняв участие в партизанском параде, мой отец стал работать в паровозном депо, где трудился еще до войны. Партизан-железнодорожников не брали в действующую армию, а оставляли восстанавливать разрушенное «рельсовой войной» и бомбежками хозяйство. Нашу семью из четырех человек поселили в полуразрушенном бомбой довоенном доме по улице Чкалова, который потом восстанавливали пленные немцы. Для обустройства быта отец забил фанерой окно, сколотил стол-козлы, соорудил «буржуйку», выведя трубу в форточку, приволок оставшиеся в немецком бараке эмалированную плиту и шкаф. Так вместе с пятью такими же семьями, в двухкомнатной квартире, разгороженной занавесками, началась наша мирная жизнь. Когда я позже спросил у папы, какой день в своей жизни он считает самым счастливым, он мне напомнил то время. Потому что остался жив, пройдя три войны, подполье и партизанскую военную круговерть. Потому что наша мама спасла меня с сестрой во время блокады карателями партизанской зоны. Потому что больше не свистят пули, не надо бояться за семью и есть крыша над головой. А что еще надо для счастья?

А второй эпизод связан с моей бабушкой. Она была почти неграмотной, но очень красивой, проницательной женщиной с острым умом и чувством юмора. Потеряв в 1937 году мужа-середняка, она одна подняла четырех сыновей и трех дочерей. Судьба вознаградила ее тем, что все они, вплоть до самого младшего, над которым в 16 лет партизаны шутили, что в строю винтовка выше его роста, воевали или партизанили – и все вернулись с войны. Так же, как и мужья сестер моего отца. Это вообще уникальная судьба белорусской семьи. Бабушка приехала к нам из Руденска, что в Пуховичском районе, весной 1953 года в гости. В те дни хоронили Сталина. Вождя оплакивала вся страна. Но моя бабушка почему-то не плакала, а, помню, лишь сказала: «Надо ж, как кота хоронят мыши…»

Вероятно, в жизни каждого человека происходят события, касающиеся как всех, так и его лично. Они формируют его сознание и мировоззрение, так как надолго врезаются в память не отвлеченно-обобщенными образами или лозунгами, а индивидуальными, личными восприятиями житейского окружения. Поэтому правда о войне, о судьбах людей, живших в этом времени, будь это близкие люди или герои художественных произведений, дорогого стоит. Об этом надо говорить. Только тогда мы будем знать и ценить свою историю, чувствовать прошлое, искать ответы на вопросы: «А хто там ідзе?", «Хто мы?», «Чем обязаны поколениям предков?» Только тогда мы будем считать себя народом, а не населением, испытывать чувство гордости за страну и стремиться к единству, о котором сейчас так много говорится.

И еще скажу вот о чем. Хорошо бы нам позаимствовать опыт работы еврейских общин. Посмотрите, сколько создано мемориальных комплексов, установлено памятных камней в память о жертвах Холокоста. О шести миллионах евреев, погибших во Вторую мировую войну, знает весь мир. А о белорусском народе, подвергшемуся такому же уничтожению, о нашей разрозненной и разграбленной стране (не говоря уже о предыдущих войнах и Чернобыльской аварии), о народе, поголовно боровшемся с пришедшими на его землю фашистскими захватчиками, о стране, не случайно ставшей одной из стран – основателей ООН, в мире знают немногие. Особенно это касается молодого поколения, которое, бывает, уже даже не может сказать, кто с кем воевал и кто победил в этой страшной войне. Думаю, что работа в этом плане должна стать наряду с торгпредскими функциями одной из основных задач наших дипломатов и международных организаций. Активность еврейских общин обеспечивает сочувствие, поддержку, в том числе материальную, со стороны международных организаций, фондов, диаспор, Государства Израиль. Тут мы могли бы быть, как говорится, в одной упряжке. Даже информация о концлагере в Тростенце привела к тому, что этот мемориальный комплекс было решено соорудить в том числе и за счет европейцев.

Мы же больше говорим о героизме, мужестве, патриотизме, демонстрируем на парадах свою военную мощь. Все это, конечно, не исключает одно другого, но правда о судьбах наших людей в кровавом, коварном и жестоком XX веке должна доноситься до людей за рубежом. Мир должен помнить и знать о трагической судьбе белорусов в военные годы. Сравните, например, известность дневника Анны Франк и дневника ленинградской блокадной школьницы Тани Савичевой. Вспомните, как стоя слушали в немецком бундестаге выступление 95-летнего писателя Даниила Гранина о судьбах блокадников. Кстати, сам Гранин был мастером Ленинградской кабельной сети, проложившей электрические кабели по льду Ладожского озера к блокадному Ленинграду.

Можем ли мы назвать хоть одно выступление наших ветеранов за рубежом? А ведь личностные контакты позволят многим задуматься не только о вкладе нашего народа в разгром фашизма, но и о его жертвенности во имя счастья всех живущих, это будет понято и оценено. Ведь не все приезжают в Минск и посещают Музей истории Великой Отечественной войны.

В контексте затронутой темы хочу рассказать о партизанской жизни нашей семьи. Так сложилось, что моего отца в 1939 году призвали в армию практически от свадебного стола. Вернувшись на короткое время из Западной Украины и Западной Белоруссии домой, он ушел на войну с Финляндией. При штурме «Линии Маннергейма» их роту положили пулеметным огнем на рассвете в 40-градусный мороз. Только когда стемнело, уцелевшие несколько человек смогли выползти к своим. Папа отморозил обе руки, которые должны были ампутировать, но спас опытный военврач. Вернулся отец домой из госпиталя незадолго до начала войны с Германией. Родители решали, пойти ли 22 июня 1941 года на открытие «Комсомольского озера» (его так назвали потому, что копали вручную комсомольцы, в том числе и моя мама) или ехать к бабушке в Руденск. Поехали в Руденск. Там их и застала война. Пока вернулись в Минск, там уже были немцы. С друзьями-железнодорожниками, жившими в том же доме по улице Чкалова (теперь это дом №16), под руководством начальника паровозного депо Ф.С.Кузнецова начали выводить из строя паровозное хозяйство немцев. Довольно скоро отца пытались схватить, но он ушел от погони, выпрыгнув из окна второго этажа и вернулся в Руденск. Стал работать на лесопилке и помогать братьям и сестрам, ушедшим в партизаны.

В июне 1942 года родился я. В 1943 году отца предупредил об аресте работавший в немецкой комендатуре переводчик. И вся семья ушла в лес. Началась жизнь в партизанской зоне, где в декабре 1943 года родилась моя сестра. Отец находился на задании. Мама помогала партизанам, чем могла: стирала бинты, готовила, не вызывая подозрений с грудным ребенком, ходила к связным отряда.

Перед освобождением Минска зверствовали карательные батальоны фашистов. Они окружили партизанскую зону. Отряд с боями вышел из окружения, а семьи оказались в сжимавшемся кольце немцев. Позже мама рассказывала, что, когда она кормила грудью мою сестренку, кто-то крикнул: «Немцы с собаками!»

Взвалив меня на спину, держа зубами за воротник, мама с сестричкой на руках бросилась в сторону болота. Понимая, что с двумя детьми не спастись, она решила под одной из елочек «замаскировать» малютку (а вдруг каратели не заметят?), а сама, подхватив меня, бросилась в болото. Нащупав ногами большую купину, она укрылась от ищеек.

Через несколько часов, когда замолк лай собак и ушли каратели, мама отнесла меня в ближайшую деревню и с местными крестьянами пошла искать дочку. Только через двое суток стало известно, что жители соседней деревни наткнулись в болоте на искусанную комарами грудную девочку. Таким образом мы оказались спасенными.

В нашем домашнем архиве до сих пор хранится справка с печатью и подписью комиссара партизанского отряда имени Щорса от 30.06.44г. о выделении двум партизанским семьям (в том числе нашей) коровы, взятой во вражеском гарнизоне Шацк. Люди и на войне оставались людьми, думали о будущем, берегли детей, создавали музей.

Сестренку выходили. Дважды после освобождения Минска ее направляли по два месяца в санаторий. Теперь нам за 70 лет. У сестры сын – кандидат наук, готовится защитить докторскую диссертацию. И всю жизнь хранили мы в сердце огромную благодарность папиным друзьям-партизанам, еще раз показавшим в сложных условиях лучшие человеческие качества, стремление верить в будущее и думать о других, помогать им. Из таких событий в жизни каждого, кого опалила война, и складывается суровая настоящая военная правда.

Проходят годы, меняется мир, но остается, не меняется, сущность человека. Нашему поколению пришлось жить «в эпоху великих перемен». Я помню и пленных немцев, и сталинский «культ», и хрущевскую «оттепель», и брежневский «застой», и горбачевскую «перестройку», и развал СССР, живу в «сильной, процветающей» Беларуси. И все эти события вплетены в судьбы людей, для которых, наверное, всегда будут ближе события, коснувшиеся их лично и их близких. Что ни говорите, но человек устроен так, что ему ближе не идеологические лозунги, а общечеловеческие ценности и события, затронувшие непосредственно его. Именно такая информация, такие впечатления и воспоминания и могут послужить духовным мостиком от старших поколений к тем, которые придут им на смену.

**Борис Флорианович ПАШЕНКО.**

*Минск.*

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Ці трэба для бальніцы кароткія спадніцы?

Міністэрства аховы здароўя вынесла на грамадскае абмеркаванне праект пастановы, згодна з якой, у прыватнасці, медыкам будзе забаронена насіць кароткія спаднічкі і туфлі на высокіх абцасах.

У роспачы галоўны ўрач,
Бядуюць юныя медсёстры.
Ім, небаракам, хоць заплач –
Як быццам нож для горла востры,
Бо "зверху" спушчаны дрэс-код
Для ўсіх бальніц і паліклінік:
Не варта спакушаць народ
І адзяваць спадніцы-міні;
Пад забаронай з гэтых пор
І шпількі – тонкія абцасы,
Бо кожнай з нашых медсясцёр
Патрэбна цноту несці ў масы;
Вядома, калі ў вольны час
Ты хочаш выступіць са сцэны,
Ніхто не зганіць твой абцас,
Хоць і абуеш лабутэны;
Калі ж задужа прагнеш ты,
Каб на клубы твае глядзелі,
Забудзь пра шпрыцы і бінты –
Ідзі ў путаны ці ў мадэлі.
Прыйшлося ўвесці той дрэс-код
На тэрыторыі бальніцы.
Ды толькі дадалі турбот
Усім
Ніжэй калень спадніцы.
Калі раней усе падрад
Медсёстры агалялі сцёгны,
І ў калідоры, і з палат
Радзей гучалі хворых стогны.
Дапамагаў такі дрэс-код!
Уранку, скажам, самавіта
Галоўны ўрач рабіў абход.
За ім – паўголых дзевак світа.
Абцасікамі цок ды цок
(Той гук – як аспірын ад болю),
І "поўна пазуха цыцок",
Што хочуць вырвацца на волю.
І пацыенты, што дасюль
Ляжалі нерухома, плазам
(Ад юнакоў і да дзядуль!)
Як быццам ажывалі разам.
У час таго абходу нат
"Ляжачыя" сядлалі ложкі:
Хто ў цыцкі кіраваў пагляд,
Хто зыркаў спадцішка на ножкі.
Калі медсёстры клалі ніц,
З ахвотай падстаўлялі спіны
І пад гарчычнік, і пад шпрыц,
Глытаючы юрліва сліны.
Нібыта конік малады,
Сябе паводзіў кожны хворы.
А там глядзіш – і сапраўды
Падбрыквае на калідоры!
Паказчыкі ішлі на ўзлёт,
Дапамагала "тэрапія"!
Цяпер зусім другі дрэс-код,
І рэзультаты – не такія.
Калі медсёстры і ўрачы
(На іх, нібы мяшкі, халаты
І ледзь не боты-кірзачы)
Гурбой заходзяць у палаты,
Дык пацыенты ў іхні бок
Больш не скіроўваюць пагляды:
Без "поўнай пазухі цыцок"
Іх бачыць хворыя не рады.
Ляжаць, як муміі, і ў столь
Глядзяць яны няўцямна-тупа,
Як быццам іх даймае боль
Ці ўвогуле амаль што трупы.

* * *

Выснова: трэба для бальніц,
Каб мы вылечваліся лепей,
Пабольш прыгожых маладзіц,
Калі няма харошых лекаў…

СТОП-КАДР

# Каляды на Палессі…




ВАС ЦІКАВІЦЬ…

# Што прапануюць еўрапейцы?

***Як вядома, у снежні мінулага года місія АБСЕ апублікавала выніковую справаздачу па назіранні за парламенцкімі выбарамі ў Беларусі, якія прайшлі 11 верасня. Дакумент быццам бы ўтрымлівае 32 рэкамендацыі нашым уладам па паляпшэнні выбарчай сістэмы ў краіне. Што канкрэтна прапануюць нам еўрапейцы?***
***А.ПАДАБЕД, Мінскі раён.***

Нічога прынцыпова новага міжнародныя назіральнікі ў чарговай справаздачы не адзначылі. Канстатавалі, што *"парламенцкія выбары былі арганізаваны эфектыўна, але, нягледзячы на некаторыя першыя крокі з боку ўлад, шэраг даўніх сістэмных недахопаў застаецца"*.

Заўвагі еўрапейцаў тычацца перш за ўсё складу выбарчых камісій, падліку галасоў, арганізацыі датэрміновага галасавання, асвятлення выбарчай кампаніі ў СМІ. Выніковая справаздача АБСЕ, як і пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 і 2015 гадоў, а таксама парламенцкіх 2012-га, утрымлівае і рэкамендацыі. Іх сапраўды 32. Дзесяць рэкамендацый міжнародныя назіральнікі абазначылі як прыярытэтныя.

1.Заканадаўчую базу належыць усебакова перагледзець дзеля выканання папярэдніх рэкамендацый БДІПЧ/АБСЕ і Венецыянскай камісіі, у тым ліку адносна складу выбарчых камісій, правоў кандыдатаў, правоў назіральнікаў, галасавання, падліку галасоў і падвядзення вынікаў. Закон трэба тлумачыць і прымяняць такім чынам, каб забяспечваліся аднолькавыя ўмовы для барацьбы для ўдзельнікаў, сапраўдная канкурэнцыя, свабоднае выказванне волі выбаршчыкаў, а таксама надзейнасць выбарчага працэсу.

2.Усе адпаведныя законы і ўказы павінны быць перагледжаны і зменены, каб гарантаваць, што любыя абмежаванні ў дачыненні да асноўных свабод носяць характар выключэння, накладваюцца толькі ў выпадку неабходнасці ў дэмакратычным грамадстве, з'яўляюцца суразмернымі з легітымнай мэтай і не ўжываюцца адвольна і празмерна абмежавальным чынам.

3.Органы ўлады павінны гарантаваць правы асоб і груп ствараць без неабгрунтаваных абмежаванняў уласныя палітычныя партыі ці палітычныя арганізацыі, а таксама даваць ім неабходныя юрыдычныя гарантыі канкурыраваць адзін з адным на роўных падставах.

4.Дзеля забеспячэння прававой пэўнасці асноўныя аспекты выбарчага працэсу павінны рэгулявацца законам, а не пастановай ЦВК. Прававую рэформу належыць правесці задоўга да правядзення.

5.Улады павінны гарантаваць, каб кандыдаты і выбаршчыкі маглі ажыццяўляць свае права на сход і выказванне або атрыманне інфармацыі, не асцерагаючыся пакарання, адміністрацыйных дзеянняў або запалохвання.

6.Дзеля павышэння празрыстасці і падсправаздачнасці вынікі варта публікаваць з разбіўкай па выбарчых участках і асобна па кожным кандыдаце, яны павінны таксама ўключаць у сябе колькасць сапраўдных і несапраўдных галасоў, галасоў супраць усіх кандыдатаў і колькасць сапсаваных бюлетэняў.

7.Варта прыняць меры для запэўнівання бесперашкоднага доступу назіральнікаў да ўсіх аспектаў выбарчага працэсу. Назіральнікі павінны мець магчымасць назіраць увесь працоўны працэс выбарчых камісій, у тым ліку праверку подпісаў і іншых дакументаў для рэгістрацыі кандыдатаў, правяраць спісы выбаршчыкаў і атрымліваць завераныя копіі пратаколаў выбарчых камісій.

8.Датэрміновае галасаванне неабходна праводзіць з тымі ж гарантыямі, што і галасаванне ў дзень выбараў, у тым ліку з кворумам участковых выбарчых камісій і без перапынкаў.

Штодзённыя пратаколы павінны ўключаць колькасць выбаршчыкаў, зарэгістраваных у спісе выбаршчыкаў, колькасць дададзеных выбаршчыкаў і колькасць выбаршчыкаў, якія прагаласавалі. Яны павінны заставацца ў агульнай бачнасці пасля заканчэння падліку галасоў і да заканчэння апошняга тэрміну для падачы скаргаў.

9.Падлік галасоў трэба праводзіць празрыстым чынам, каб усе члены УВК, назіральнікі і давераныя асобы кандыдатаў мелі магчымасць праверыць вынік працэсу. У якасці сродку для ўмацавання грамадскага даверу варта разгледзець магчымасць абвяшчаць і паказваць прысутным асобам частку кожнага выбарчага бюлетэня, а таксама аб'яўляць усе лічбы, запісаныя ў пратаколы УВК.

10.Дзеля таго, как павысіць празрыстасць падліку і ўпэўненасць грамадскасці ў дакладнасці вынікаў, акружныя выбарчыя камісіі павінны весці бесперапынныя сесіі з моманту перадачы пратаколаў участковымі выбарчымі камсіямі да запаўнення выніковых пратаколаў АВК у прысутнасці членаў УВК і назіральнікаў.

***

**Сярод іншых рэкамендацый: перагледзець механізм фарміравання Цэнтральнай выбарчай камісіі, каб забяспечыць дастатковыя гарантыі яе незалежнасці і непрадузятасці; знайсці магчымасць уключаць у склад выбарчых камісій прадстаўнікоў усіх канкурыруючых бакоў на выбарах; забараніць мясцовым службовым асобам прысутнічаць на выбарчых участках у дзень выбараў і іншае.**

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ

# Мошенникам инновации не нужны

Когда в 2015 году мне предложили поработать на одном из предприятий над идеями его развития, я порадовалась за директора: наконец-то прозрел, понял, что жить вчерашним днем не стоит.

Оказалось, рано порадовалась, поскольку не директор прозрел, а его просто-напросто обязали «взяться за ум» учредители – поляки, прислав «Брошюру ценностей», на которые теперь должны ориентироваться сотрудники их холдинга. Раньше все ориентировались на деньги, а поляки предложили начать ориентироваться на покупателей, владеющих теми самыми деньгами, которые хотело бы иметь предприятие.

Для разработки новой стратегии директор создал группу, которая, проработав около полугода, выявила острейшие проблемы, но при этом поняла, что не справится с их решением. Тогда и пригласили меня, ученую, для разработки проекта дальнейшего развития предприятия. Подписали договор и я активно включилась в работу.

Через полгода, когда проект был готов, стало ясно, что никто не собирается ничего менять, ничего внедрять, а уж тем более меняться, развиваться, совершенствоваться самим. Мои материалы нужны были директору для того, чтобы показать, главным образом учредителям, что он – «на плаву» и обогащает коллектив научными знаниями, а – главное – **чтобы получить у учредителей значительную сумму денег на «развитие» предприятия (поляки денег на развитие не жалеют).**

В рамках договора было невозможно заранее предвидеть, какой объем работы предстоит исполнителю выполнить. По ходу работы над проектом возникала необходимость ломать голову над проблемами, о которых исполнитель поначалу ничего не знал. Поэтому по объему проект получился с кандидатскую диссертацию, а по содержанию идей, в нем изложенных, мало чем отличался от докторской.

Что касается оплаты по договору возмездного оказания услуг, то ее осуществляют по результатам, когда работа уже выполнена. И директор, и исполнитель знали, что это очень дорогая работа, за которую мало кто берется именно потому, что она предполагает высокий уровень научной и профессиональной подготовки. Реально работа стоит дорого, а директор решил, получив деньги, выделенные учредителями на ее выполнение, **не платить исполнителю ничего**. При этом он сполна получил все разработанные исполнителем материалы. Когда деньги, полученные за проект, по всей видимости, были потрачены на другие нужды, этот горе-руководитель нагло заявил: «Я никакой проект никому не заказывал, я его не изучал, не видел, не получал»…

Понятно, денег исполнитель до сих пор не получил. Хотя и договор (по закону) до сих пор между сторонами продолжает действовать.

Мне объясняют: «Мы живем в такое время…» Хочется напомнить: во всякие времена на земле были люди порядочные и мошенники. Просто сейчас мошенников стало гораздо больше. И они будут плодиться и дальше, если общество не будет пресекать попытки таких людей брать чужое. Если во главе трудовых коллективов будут стоять люди, которым никакие инновации не нужны, те, кому важнее всего лишь иметь теплое место и хороший оклад.

**Светлана ШУМАН,**
**кандидат педагогических наук, доцент.**

ВОКРУГ РЕАКТОРА




**Карикатура Ирины ПУСТОВАЛОВОЙ.**

ПАЗІЦЫЯ

# Станем разам за нашу мову!

Шчыра ўдзячны "Народнай Волі" за тое, што яна ставіць рубам пытанне пра бядотны стан беларускай мовы ў краіне. Меркаванні даволі рознабаковыя, і гэта добра. Але варта звярнуць асаблівую ўвагу на корань усіх пытанняў. Ён, мне думаецца, у тым, што зрусіфікаванасць беларусаў – гэта найбольшы поспех мэтанакіраванага курсу савецка-камуністычнага кіраўніцтва СССР па зліцці ўсіх нацый у "адзіны савецкі народ", які, паводле яго задумы, павінен быў размаўляць, зразумела ж, на рускай мове. Сорамна і горка, што сёння "перамоганосную" кропку на шляху да гэтай пачварнай мэты кіруючыя вярхі хочуць паставіць у сучаснай Беларусі!

…Прыемна, канечне, чытаць пра пэўныя зрухі ў адраджэнні беларускасці на Гродзеншчыне, у тым ліку і пра беларускамоўныя класы. Я нарадзіўся і рос пад Навагр**а**дкам (даю назву горада так, як гаварылі ў нашай мясцовасці, не карыстаючыся польскамоўным варыянтам "Навагр**у**дак"). Там народ менш зрусіфікаваны. А Магілёўшчына, дзе зараз жыву, значна больш паддалася разбеларушчванню. Гэта тычыцца, на жаль, і дэмакратычнай грамадскасці, нават многіх прыхільнікаў беларускай мовы. Так-так: адна справа быць прыхільнікам і зусім іншая – прыкладаць намаганні дзеля ўмацавання таго, што шануеш, мець мужнасць ісці супраць плыні, траціць час і нервы дзеля замацавання сваёй пазіцыі.

Гэта праўда, што многія бацькі не хочуць падаваць заявы ў беларускамоўныя класы для сваіх дзетак. Але давайце станем на пазіцыю шараговага грамадзяніна. У садку яго дзіця гаварыла па-руску. Сам ён ужо з таго пакалення, якое вырасла ў горадзе, гаварыў і вучыўся ўсё жыццё па-руску, дапамагчы дзіцяці з авалодваннем забытай роднай мовай не здолее. Ды і навошта вылучацца сярод суседзяў і супрацоўнікаў? У большыні навучальных устаноў беларуская мова не патрэбна, улада цалкам без яе абыходзіцца. Ні ад улад, ні ад грамадства ў цэлым, ні ў большасці газет, ні па тэлебачанні ніякай падтрымкі і павагі да роднай мовы ён не адчувае. У лепшым выпадку – толькі паблажлівасць: ну, маўляў, няхай сабе жыве, пакуль жыве…

Згодны з тым, што гэта не апраўданне для недастатковай эфектыўнай дзейнасці ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны". Спрыяць пашырэнню ўжывання беларускай мовы, на мой погляд, першая і галоўная задача гэтай арганізацыі. Але дзіўна прагучала неяк сцвярджэнне старшыні ТБМ А.Трусава аб поўнай свабодзе ў накірунку дзейнасці абласных арганізацый таварыства. Няўжо гэтая шаноўная арганізацыя не вызначае ніякіх агульных задач, не праводзіць узгодненую дзейнасць? Напрыклад, сам я гатовы актыўна выступаць перад бацькамі, агітаваць і расказваць, як паспяхова выкладаюцца тэхнічныя навукі па-беларуску. Ды ніхто не запрашае мяне да дабрачыннай дапамогі.

Але чаму пытаннямі паратунку дзяржаўнай мовы павінны займацца толькі грамадскія арганізацыі? Уся сістэма адукацыі ў нас наогул гэтай праблемай не цікавіцца, нават фармальна не патрабуе ад школьных калектываў ніякіх мерапрыемстваў у гэтым рэчышчы. Вось у Францыі, напрыклад, дзяржава вельмі турбуецца за французскую мову, парламент прымае адпаведныя законы дзеля яе чысціні і захавання. Расійская Дзярждума выдае заканадаўчыя акты ў падтрымку рускай мовы. А беларускай дзяржаве мова тытульнай нацыі як быццам зусім не патрэбна.

У пераважнай большасці адказаў з розных устаноў і арганізацый на запыты з боку ТБМ дамінуе адзін матыў: вы што, не ў курсе – у нас жа дзве дзяржаўныя мовы, і мы маем права карыстацца любой, а таму працуем на рускай?! Такі вось аргумент! Бо нашы заканадаўцы правялі ў законе аб мовах знакамітае "і (або)", каб можна было ўжо не турбавацца пра далейшае звядзенне на нішто беларускай мовы.

Мучыць сакраментальнае пытанне: чаму ў Беларусі яе грамадзянам трэба ўпарта дабівацца адкрыцця беларускамоўных класаў? Згадаем, напрыклад, што рабілі нашы суседзі ў Віленскім краі на пачатку 1990-х пасля атрымання Літвой незалежнасці: яны рашуча пераводзілі школы на нацыянальную мову, выкарыстоўваючы адміністрацыйны рэсурс, за гэта даплачвалі настаўнікам. Гэта было патрэбна іх дзяржаве, уладзе, гэта была асэнсаваная дзяржаўная палітыка, якая дала плён.

Цягам 20 гадоў я выкладаў свае тэхнічныя дысцыпліны па-беларуску. Увага і падтрымка на пачатку 1990-х гадоў моцна адчувалася. А пазней… Зараз беларускасць – толькі твая асабістая справа. Добрым словам успамінаем былога міністра культуры Паўла Латушку, які сваёй беларускай мовай даваў прыклад іншым. Але ці перайшлі ўсе міністэрскія чыноўнікі на гэтую мову? Ці многа заяў паступае хаця б ад супрацоўнікаў міністэрства на навучанне дзяцей і ўнукаў па-беларуску? Адказы на гэтыя і многія іншыя пытанні несуцяшальныя.

А ці шмат дырэктараў гімназій, школ з моцнай беларускамоўнай пазіцыяй? Адзінкі. Тым болей што беларускамоўнае выкладанне звязана з няпростай кадравай праблемай: пераважная большасць настаўнікаў беларускай мовай не валодаюць. Гэта таксама сумны вынік дзяржаўнай палітыкі. Нармальнай жа павінна быць сітуацыя, калі настаўнік можа вучыць і па-руску, і па-беларуску. Ды для гэтага няма ні стымулаў, ні матывацый, ні нават размовы… Не чуў, каб Міністэрства адукацыі хоць бы заікнулася аб нейкіх захадах у гэтым накірунку.

Згодны, што ў сённяшняй сітуацыі трэба радавацца і таму, што адзінкавыя беларускія класы ў гарадах пакуль не закрываюцца. Але задумайцеся: ці гэта нармальна?! Хіба мы ў сваёй краіне – нацыянальная меншасць, якой дастаткова некалькі класаў або школ?

Не адмаўляю: ёсць прыклады і паважлівага стаўлення да мовы. Але сёння гэта ўсё ж меншасць, якая не стварае крытычнай масы. Каб сітуацыя заўважна змянілася, неабходна менавіта крытычная маса нашых дзеянняў і высілкаў. Такую масу, скажам папраўдзе, сёння не набярэ ніводная асобная арганізацыя ці асоба. Для гэтага, як гаварылася, патрэбны змены ў дзяржаўнай моўнай палітыцы. Лічу, што тут была адна з асноўных і наіўных памылак шчырых, актыўных змагароў за беларускасць на пачатку 1990-х гадоў. Такая палітыка павінна ўлічваць усе нюансы існуючай рэальнасці, не выклікаць адмоўнай рэакцыі, а ствараць матывы і стымулы. Мець на ўвазе, што большасць маладых беларусаў, якія выраслі ў горадзе, не карысталіся ў дзяцінстве беларускай мовай. Што наша інтэлігенцыя і кіраўнічая эліта ў цэлым ставіцца да моўнага пытання індыферэнтна, а часам і адмоўна. І тое, што ў складзе гэтай эліты значна большая доля рускамоўных, чым у складзе насельніцтва… Калі мова тытульнай нацыі ў дзяржавы не будзе на ніякім месцы, калі на гэтай мове не будзем у першую чаргу эканоміць, як сёння, тады яна хутка ажыве і ўмацуе свае пазіцыі.

Зноў згадваю пачатак 1990-х гадоў, калі беларускае наша слова пачало гучаць у дзіцячых садках. Не адзін раз назіраў, з якім замілаваннем слухалі яго з вуснаў любімых унукаў і ўнучак рускамоўныя бабулі. Яны не казалі ім "Говори нормально", "Не притворяйся", а паўтаралі за імі: "Добрай раніцы", "Да пабачэння", "Калі ласка". Але хутка ім проста закрылі раты. І гэта трэба ўлічваць.

Хтосьці можа сказаць, што я, маўляў, заклікаю нічога не рабіць, а толькі ціснуць на ўладу. Зусім не! Усё добрае для нашай мовы трэба працягваць рабіць кожнаму, каб памнажаць ручайкі беларускасці, якія, зліўшыся ў паток, размыюць потым дамбу на яе шляху. Трэба рыхтаваць і захоўваць той "насенны матэрыял", з якога пры пэўных умовах уздымуцца моцныя парасткі, актыўна ствараць цэнтры крышталізацыі беларускасці. Хаця тут я не падзяляю празмернага аптымізму, які часам выказваецца. Уся разнапланавая работа толькі з цягам часу будзе назапашваць тую крытычную масу, якая стане вырашальнай.

Усе, хто штосьці робіць на карысць беларускай мовы і беларускасці, павінны стаць разам незалежна ад таго, якога "колеру" іх палітычныя перакананні і густы, падтрымліваць адзін аднаго ў агульным змаганні. І рабіць усё, што можна, каб працаваць на будучыню, далёкую ці блізкую. Каб не патухла свечка беларускасці.

**Аркадзь СМАЛЯК,**
**дацэнт, кандыдат тэхнічных навук.**
*Магілёў.*

КОРОТКО

## ООН придала Эстонии, Латвии и Литве статус государств Северной Европы

Ранее эти так называемые прибалтийские страны относились к категории государств Восточной Европы. Изменения зафиксированы на сайте статистического отдела ООН. К Восточной Европе теперь относятся Беларусь, Болгария, Чехия, Венгрия, Польша, Молдавия, Румыния, Россия, Словакия и Украина.

## В Гданьске обнаружен мертвым сын экс-президента Польши Леха Валенсы

По данным представителей городской полиции, тело 43-летнего Пшемыслава Валенсы было найдено одним из членов семьи. Медики не нашли на теле никаких повреждений, которые свидетельствовали бы о криминальном характере смерти. Эксперты предварительно исключили причастность кого-либо к смерти Валенсы-младшего.

СЛЫШАЛИ?

## Китай испытал первый самолет на водородном топливе

Разработчики утверждают, что за все время испытаний не было зафиксировано никаких вредных выбросов в атмосферу. Сообщается, что все системы самолета успешно функционировали при температуре минус 20 градусов по Цельсию.

Китай стал третьей страной в мире, которая провела испытания самолета на водородных элементах. Ранее такие испытания проводились в США и Германии.

ЭВРИКА!

## Японская страховая компания заменяет 34 сотрудника роботами



Научная фантастика уже давно описывала будущее, в котором людей на их рабочих местах заменят машины. Для 34 сотрудников японской страховой компании это будущее только что стало реальностью.

Страховая компания Fukoku Mutual Life Insurance увольняет сотрудников. Их работу по расчетам страховых выплат теперь будет выполнять автоматизированная компьютерная система, созданная на основе искусственного интеллекта.

Новая система стоимостью 200 млн иен будет установлена уже в январе. По мнению руководства компании, это позволит увеличить производительность на 30% и сэкономить около 140 млн иен (около 1,2 млн долларов США) в год на зарплатах. Техническое обслуживание системы, как ожидается, будет стоить лишь около 15 млн иен в год.

Исследование, проведенное по заказу Всемирного экономического форума, прогнозирует, что увеличение применения роботов и искусственного интеллекта приведет к потере 5,1 млн рабочих мест в течение ближайших пяти лет в 15 ведущих странах мира.

У СОСЕДЕЙ

## В Польшу прибыли первые солдаты бронетанковой бригады США




Первые военнослужащие из состава 3-й бронетанковой бригадной боевой группы 4-й пехотной дивизии США прибыли в Польшу. Самолеты доставили 250 солдат в город Вроцлав, сообщило польское информационное агентство PAP. Они будут размещены в городе Жагань на западе страны. В Польше будет дислоцирована основная часть бронетанковой бригады, которая укрепит восточный фланг НАТО в рамках операции Atlantic Resolve («Атлантическая решимость»). Здесь же будет находиться и штаб-квартира бригадной группы.

РЕЙТИНГ

## Рекорды Mercedes-Benz




Немецкая компания Mercedes-Benz продала в 2016 году 2,08 миллиона автомобилей. Данный показатель является рекордным за всю историю Mercedes-Benz.

Объемы продаж Mercedes-Benz растут уже шестой год подряд, рассказал глава Daimler **Дитер Цетше.** За последний год мировой рост продаж вырос на 11,6 процента, добавил он.

СЛУЧАЙ

## Англичанин со сломанной ногой два часа полз к спасателям

54-летний Том Робинсон поскользнулся, гуляя в субботу на побережье графства Дорсет, где он проводил выходные, и упал со скалы. Мужчину обнаружили спасатели, которые начали поиски после того, как жена Робинсона сообщила о его отсутствии на протяжении нескольких часов. Сломавший ногу мужчина использовал палки, с помощью которых ему удалось проползти три четверти мили.

ЖУТКАЯ ПИРАМИДА

# Они порождают смерть



Недавно авторитетный американский еженедельник The Defence News представил общественности перечень компаний, как мягко выразилось издание, «успешно работающих в оборонных отраслях» – считай, производящих самые современные, самые изощренные средства уничтожения людей.

На вершине этой жуткой пирамиды, само собой разумеется, находятся американцы: концерны Lockheed Martin и Boeing выручили 40,6 млрд и 30,4 млрд долларов соответственно. Они мировые лидеры по производству военных самолетов и аэрокосмической техники. Именно Lockheed Martin принадлежат «материнские права» на знаменитый истребитель F-22 и разведчик SR-71 «Черный дрозд» *(на фото).*

Английские компании занимают второе место в мире по «производству смерти»: только компания BAE Systems продала продукции, предназначенной для уничтожения людей, на 25,2 млрд долларов.

Эти показатели включают только выручку, полученную от продаж изделий военного назначения, хотя упомянутые компании являются крупными производителями еще и товаров для гражданских потребителей.

Китайцы, следуя восточным традициям, не предоставляют мировому сообществу статистических данных о продаже вооружения, хотя общеизвестно, что их доля на мировом рынке вооружения весьма значительна.

А что же Россия? Ее компании идут в общемировом русле. Концерн ВКО «Алмаз-Антей» в минувшем году занял 11-е место в международном рейтинге и первое в российском оборонном комплексе: выручка составила 4,64 млрд долларов. Все остальные российские компании в минувшем году значительно снизили объемы продаж: «Вертолеты России» с 23-го места переместились на 25-е, объем продаж составил 3,19 млрд; «Тактическое ракетное вооружение» – с 31-го на 37-е, объем продаж составил 2,38 млрд; «Уралвагонзавод» – с 69-го на 83-е место, объем продаж чуть превысил один миллиард долларов и так далее.

Однако российские военные аналитики не видят в этом никаких признаков отставания или ухудшения работы. Во-первых, на показатели россиян ощутимое влияние оказал рост курса доллара относительно российского рубля. Во-вторых, нельзя забывать, что в минувшем году российская «оборонка» работала в условиях жестких экономических санкций против России, и прежде всего против оборонных предприятий.

Недальновидная политика в 1990-е годы поставила многие оборонные предприятия России в зависимость от поставки комплектующих с Запада. И требовалось незамедлительно перестраивать кооперацию, организовывать новые производства.

Не лучшим образом на делах оборонно-промышленного комплекса сказались и украинские события: известно, что с Украиной существовала тесная кооперация, и она или уже разрушена, или разрушается.

Аналитики всех стран сходятся на том, что мир не только ведет «гибридную» войну, но и активно готовится к войне горячей. Похоже, что «сторонники мира» посторонились перед ястребами войны.

**Яков ПРОХОРОВ.**

*(«Обзор».)*

СТОП-КАДР

## Британия: королевские почести четырехлетнему малышу



Четырехлетний британец Маршалл Скотт отправился праздновать день рождения в форме королевского гвардейца в Виндзорский замок.

И каково же было удивление мальчика и его мамы Имоджен, когда капрал Колдстримского гвардейского полка Пол Идден, промаршировав мимо с однополчанами, решил вернуться и сфотографироваться с Маршаллом. Буквально за день видеозапись того, как малыш приветствует гвардейцев и фотографируется с ними, набрала более 1 млн просмотров.

По словам Имоджен Скотт, ее сын настроен патриотически и считает королеву «очень милой и красивой». Сослуживцы капрала Иддена из Колдстримского полка говорят, что очень гордятся этим поступком и что они совершенно не ожидали, что видео станет интернет-хитом.

ПРОБЛЕМА

# Электромобили – это будущее, но из-за них многие рабочие окажутся за проходными заводов

Из-за переориентации автопрома на выпуск электромобилей в Германии окажутся не у дел десятки тысяч моторостроителей и их поставщики. Эксперты требуют срочных контрмер.

Производство дизельных моторов на заводе Volkswagen в Хемнице становится все менее перспективным делом.

Немецкий автопром из экологических и технологических соображений провозгласил стратегический поворот в сторону электромобильности. Наиболее активно наращивать производство легковых автомобилей на электрической тяге намерен крупнейший автостроитель Германии Volkswagen. Но BMW и Daimler тоже готовятся к резкому увеличению выпуска электромобилей. Эксперты полностью поддерживают сделанный выбор, но предупреждают: переориентация производства обернется потерей большого числа рабочих мест.

Основная причина: для выпуска электромоторов требуется примерно в пять раз меньше деталей, чем для сборки двигателей внутреннего сгорания (и, соответственно, меньше рабочих рук). Поэтому в первую очередь пострадают моторостроительные заводы и их многочисленные смежники. Поставщики, специализирующиеся, скажем, на поршнях, сальниках или коробках передач, лишатся многих заказов, поясняет читателям газеты Bild профессор **Фердинанд Дуденхёффер,** возглавляющий Центр автомобильных исследований (CAR) при Университете Дуйсбург-Эссен. Спрос на выхлопные системы, естественно, тоже упадет. Автозаводы сокращают рабочие места из-за все более широкого использования роботов.

По подсчетам профессора, «только у поставщиков под угрозой свыше 75 тысяч рабочих мест». Институт автомобильной промышленности (IFA) в Нюртинген-Гайслингене допускает в ближайшие годы разорение порядка 20–30 процентов малых и средних фирм. В целом же автомобильная промышленность может потерять в Германии до 2025 года свыше 100 тысяч рабочих мест, сообщает деловой журнал Manager Magazin.

При этом ни эксперты, ни профсоюзные активисты не оспаривают целесообразность постепенного отказа от двигателей внутреннего сгорания, понимая, что альтернативные системы привода, особенно электрические, становятся сейчас магистральным направлением развития мирового автопрома.




Так что тревогу они бьют не для того, чтобы остановить начавшуюся технологическую революцию, а для того, чтобы ускорить принятие контрмер против ее отрицательных последствий. Председатель совета трудового коллектива концерна Daimler **Михаэль Брехт,** к примеру, призывает руководство Daimler прекратить выпускать электромоторы совместно с фирмой Bosch и сосредоточить производство исключительно на собственных мощностях. «Работу, возникающую благодаря электрификации, нельзя автоматически отдавать на сторону», – говорит он.

У профессора Дуденхёффера не столь узкокорпоративный подход. Он предлагает бороться с угрозой потери рабочих мест путем форсированного развития новых технологий. «Снизить риски можно будет только в том случае, если удастся наладить в Германии производство столь важного элемента электромобилей, как батареи», – убежден эксперт. В настоящий момент рынок контролируют японские, китайские и южнокорейские фирмы.

Конкуренцию им пока могут составить лишь американцы. Производитель электромобилей Tesla Motors под руководством предпринимателя Илона Маска строит сейчас в пустыне Невады (совместно с японской компанией Panasonic) крупнейший в мире завод по выпуску литий-ионных аккумуляторов, который уже в 2018 году планируется вывести на проектную мощность в 500 тысяч единиц в год.

А вот Германия, сокрушается профессор Дуденхёффер, разработку и производство батарей для электромобилей проспала. Впрочем, не совсем. У концерна Daimler в городе Каменце под Дрезденом уже действует завод по выпуску литий-ионных батарей, и в октябре 2016 года здесь за полмиллиарда евро началось строительство его второй очереди, которая должна быть готова к середине 2018 года.

В перспективе завод по выпуску батарей построит и Volkswagen, уверен глава концерна **Маттиас Мюллер**. Но в данный момент, пояснил он, Volkswagen предпочитает покупать литий-ионные батареи «у тех, кто лучше в этом разбирается».

Народная Воля http://www.nv-online.info
10 СТУДЗЕНЯ 2017 г.

# Алеся Кіпель – наш чалавек у Дзярждэпартаменце ЗША

*(ЗАКАНЧЭННЕ. ПАЧАТАК НА 1-Й СТАР.)*

**– Здаецца, вашы бацькі Зора і Вітаўт Кіпелі былі даволі розныя па характары асобы, але пражылі супольна доўгае і шчаслівае жыццё. У чым іх сакрэт?**

– Так, яны сапраўды былі вельмі розныя. Але мелі супольныя зацікаўленні. Мама мела іншыя здольнасці, чым тата. Але разам яны вельмі добра супрацоўнічалі. Тата вельмі хутка мог нешта патрэбнае знайсці, а мама ўсё грунтоўна прачытае, прадумае. У працы вельмі важна і тое, і тое: трэба і хутка, і шырока, і глыбока разгледзець пытанне. У іх зацікаўленні былі і супольныя, і розныя. Мама старой беларускай літаратурай цікавілася, а тата – больш гісторыяй. Але гэта бліжэй, чым каб адзін цікавіўся музыкай, а другі палітыкай. Думаю, што гэта давала ім магчымасць працаваць і жыць разам, хоць розніца ў характарах была даволі вялікая.

**– Звычайна дзеці бяруць нешта ад кожнага з бацькоў. Што ў вас ад бацькі, а што ад маці?**

– Ад бацькі, здаецца, ягоная энергія, а ад мамы здольнасці разглядаць пытанне шырэй, з розных бакоў, падумаць, спыніцца, пару дзён пачакаць, а тады нешта вырашаць. Тата звычайна хутчэй усё робіць. У мяне ёсць і тое, і тое.

**– Бацькі часта ездзілі з вамі, дзецьмі, на вакацыях у падарожжы па розных штатах. Што вам найбольш запомнілася з гэтых паездак?**

– Якая шырокая краіна ЗША, і як адрозніваецца тое, што ў цэнтры, ад таго, што па берагах. Разнастайнасць прыроды: можаш ехаць гадзінамі, і будзе, прыкладам, адно толькі жыта або проста раўніна, дзе нічога няма. Уражвала гэтая разнастайнасць прыроды і гарадоў, вёсак…

**– А што для вас "смак дзяцінства"?**

– Смак дзяцінства – гэта памідоры. У бабкі і дзеда Савёнкаў многа памідораў было, і дзед заўсёды атрымліваў каталогі і выбіраў, зярняты сартаваў. І ў іх былі добрыя памідоры: і вялікія, і малыя, і ружовыя, і чырвоныя. Дык мне з дзяцінства яны вельмі падабаліся, і цяпер сама гадую памідоры. Вось для мяне гэта смак дзяцінства – памідоры і яшчэ марожанае. Бо прыязджаў малочнік два ці тры разы на тыдзень з малаком і марожаным.

**– Беларускія стравы ў дзяцінстве на сямейным стале прысутнічалі?**

– Так, канечне! Галубцы, піражкі, бліны, грыбы. Мы хадзілі ў грыбы, бо каля хаты бабкі і дзеда Савёнкаў быў лес, дык хадзілі, збіралі баравікі, здаецца. Што яшчэ? Часам былі дранікі, але не так часта. Халаднік, вінегрэт, на Вялікдзень – пасха… Канечне, каўбаса, яна была ўсякая: і ўкраінская, і польская, і беларуская. І таксама рыбу смажаную елі, бо калі былі ў Савёнкаў, то ішлі на рыбалку, і тады бабка смажыла рыбу.

Марыя Кіпель не надта добра ўмела варыць. Яна працавала настаўніцай, у іх цяжкае жыццё было, то яна надта на кухні не бывала. А Апалонія Савёнак вельмі добра ўмела і варыць, і пячы, у яе ўсялякія прысмакі былі. Мама некаторыя беларускія стравы гатавала, але часцей мы амерыканскія елі. Адно што мама, як вучылася ў Лювэне, жыла ў інтэрнаце з дзеўкамі з В'етнама і навучылася ад іх рабіць кары. Дык мы раз на тыдзень заўсёды елі кары. Гэтага ў амерыканскіх сем'ях у тыя часы ніхто не ведаў яшчэ. Як я пераехала ў Вашынгтон і пабачыла тут багата в'етнамцаў, дык аказалася, што мама сапраўды рабіла аўтэнтычнае в'етнамскае кары. Думаю, у іншых сем'ях больш традыцыйнага ў кухні было, як у нас. Я, каб сказаць праўду, нічога такога традыцыйнага і не ўмею варыць. Магу па рэцэптах, але каб так сама гатаваць – не. Наогул гатаваць люблю, але больш нешта экзатычнае. І раблю не надта часта, толькі як госці.

## Адвакацкая кар'ера для жанчыны

*Алеся добра вучылася ў школе, бо хацела трапіць у прэстыжны ўніверсітэт. Паступіла ў Прынстан, а пазней – яшчэ на юрыдычны факультэт Джорджтаўнскага ўніверсітэта. Праўда, не думала быць адвакатам, спадзявалася знайсці сябе ў палітычнай сферы. Аднак пасля першага курса пайшла працаваць у невялікую адвакацкую фірму, якая займалася разнастайнымі справамі ў галіне імпарту ў ЗША, і ўпадабала гэта. У выніку каля 35 гадоў працавала адвакатам і дасягнула высокага ўзроўню – становішча партнёра ў юрыдычнай фірме Steptoe&Johnson LLP. Алеся Кіпель увайшла ў лік самых паспяховых амерыканскіх адвакатаў.*

**– Вы дасягнулі высокага становішча ў адвакацкай галіне і з'яўляецеся прыкладам паспяховай у прафесійным плане жанчыны. Што трэба жанчыне ў Амерыцы, каб дасягнуць гэткага поспеху?**

– Канечне, трэба добра вучыцца і добры розум мець, без гэтага нікуды не пойдзеш у такіх сферах, як юрыдычная, медыцынская. А часам бывае, што пашанцуе. Часам трэба быць у адпаведным месцы ў адпаведны час. Гэта вельмі важна. Але трэба і шмат працаваць, а для жанчыны гэта цяжэй. Цяпер ужо крыху лягчэй, чым 30 гадоў таму. Але яшчэ нельга сказаць, што жанчынам гэтаксама ж магчыма рабіць кар'еру, як і мужчынам. Неабходна вытрымліваць баланс. Трэба ісці наперад, быць крыху агрэсіўнай, але калі жанчына занадта агрэсіўная, то гэта ўжо нядобра, і здаецца, што з ёй нешта не тое. Нібыта тое самае, што мужчына, зробіць жанчына, але будзе ўспрымацца інакш. Балансаваць бывае даволі складана. Добра мець некага, хто табой апекуецца, дапамагае. Гэта, можа, нават больш важна жанчынам, чым мужчынам. Важна, каб быў нехта, хто можа проста параду даць, падказаць у патрэбны час.

І таксама трэба, як гаворыцца, мець тоўстую скуру, бо гэта нялёгка. Часам трэба сказаць, што нешта не так, а часам трэба маўчаць. Цяпер гэтага менш, а раней мы часта так сядзелі і маўчалі. Каб не было ўражання, што з жанчынамі працаваць трэба інакш, чым з мужчынамі. Для нас гэта было вельмі важна. Цяпер прасцей, не так шмат трэба думаць, як апрануцца ці правільна нешта сказаць, можна больш проста да ўсяго адносіцца.

**– А ці шмат жанчын дасягае такога высокага ўзроўню ў адвакацкіх фірмах, як вы?**

– Не. У нас цікавая статыстыка ёсць: 30 гадоў таму каля 20 працэнтаў партнёраў у адвакацкіх фірмах былі жанчыны, і цяпер яшчэ тыя ж 20 працэнтаў застаюцца. Хоць заканчваюць юрыдычны факультэт амаль 50 на 50 працэнтаў мужчын і жанчын, але дасягаюць прыступкі партнёра толькі 20 працэнтаў жанчын. Цікава, што столькі за гэты час змянілася, але статыстыка застаецца тая самая. І мы, старэйшыя жанчыны ў фірме, увесь час сачылі, чаму гэта: чаму жанчыны кідаюць, куды яны ідуць, ці кідаюць працаваць наогул, ці кідаюць канкрэтныя фірмы і чаму так адбываецца? Але адказаў дакладных пакуль няма.

## Дзяржслужба

*Недзе год таму Алеся перайшла на працу ў Дзярждэпартамент ЗША. Нетрывіяльна, калі паспяховы адвакат з прыватнай фірмы пераходзіць на менш фінансава выгадную дзяржаўную службу. Тым не менш Алеся Кіпель гэта зрабіла.*

**– Чаму паспяховая адвакатка вырашыла змяніць фірму на дзяржслужбу?**

– 35 гадоў рабіла адно і тое ж і падумала: перад тым як выйду на пенсію, трэба нешта змяніць. Бацька мой быў маладзейшы, як выйшаў на пенсію, але пачаў тады больш сур'ёзна беларускімі справамі займацца (хоць заўсёды займаўся, але тады змог цалкам менавіта гэтым). То як выйдзеш на пенсію, гэта не значыць, што ўжо канец працы. І я пачала думаць, чым хачу займацца, калі буду на пенсіі. Напрыклад, мяне вельмі цікавяць экалагічныя справы, і ёсць розныя арганізацыі, якія імі займаюцца. Але, каб трапіць у такую арганізацыю з магчымасцю на нешта ўплываць, партнёр з адвакацкай фірмы не надта быў бы цікавы для гэтага. Дзяржаўная пасада мае большы статус і большыя магчымасці для будучыні. Таму гэта добры варыянт, каб потым нечым цікавейшым на пенсіі займацца. Важна рабіць нешта не толькі для сябе, а для агульнага дабра. Я заўсёды займалася адвакацкімі справамі збоку, не толькі ўласна на працы, зарабляючы грошы, але і на грамадскіх пачатках. Як і беларускімі справамі таксама. Таму для мяне гэта было лагічна – перайсці на дзяржаўную службу, каб паспрабаваць нешта новае і каб мець новыя магчымасці потым больш аддаваць грамадству.

**– Як называецца ваша пасада і чым вы, уласна, займаецеся ў Дзярждэпартаменце?**

– Я выканаўчы дырэктар, у мяне 230 асоб падначаленых. Мой аддзел называецца *Regulations and Rulings* – правілы і рашэнні, якія датычацца міжнароднага імпарту. Аддзел – частка *U.S. Customs and Border Protection:* гэта і мытня, і ахова мяжы таксама сюды ўваходзіць – каля 60 тысяч чалавек працуюць на гэтай службе. А ўсё гэта частка *U.S. Department of Homeland Security* – Дэпартмента ўнутранай бяспекі, у якім працуюць каля 240 тысяч чалавек па ўсёй краіне.

**– Якія перавагі ў параўнанні з іншымі пасадамі дае статус дзяржслужачага ў ЗША?**

– Раней добрыя пенсіі былі. Цяпер, праўда, не тое, але тыя, хто пачынаў працу на дзяржаўнай службе тады, калі я заканчвала юрыдычны факультэт, дык добрыя пенсіі мелі. Страхоўка даволі танная і добрая, якасная. Праца цікавая, бо вельмі разнастайная. Зарплата не такая, як у прыватным сектары, хоць залежыць ад галіны і пасады. Праца сталая, забяспечаная. Часам ёсць магчымасці рэпрэзентацыйнай дзейнасці. Але думаю, што самае важнае – цікавая праца. Часам адвакаты гавораць, што на дзяржслужбе не трэба так шмат працаваць, але гэта няпраўда. Бо я больш цяпер працую, чым на пачатку кар'еры.

**– Ці накладвае статус дзяржслужачага ў ЗША нейкія абмежаванні на чалавека?**

– Так, трэба быць вельмі асцярожнай, каб не выглядала, што нешта робіцца неэтычна, некарэктна. Нельга падарункаў атрымліваць, каб не выглядала, што нехта можа купіць нашу лаяльнасць. З гэтым вельмі строга ў ЗША на дзяржаўнай службе. Трэба асцярожна выказвацца публічна. Мы працуем для адміністрацыі, таму мусім падзяляць: прыватна робіш – гэта адно, а публічна – іншае. Калі ты на вышэйшай пасадзе пра нешта выказваешся, гэта прымаюць як афіцыйную дзяржаўную пазіцыю, людзі прыслухоўваюцца, і трэба быць асцярожнай у публічных выказваннях.

**– Ці могуць звольніць дзяржслужачага, які рэзка выказаўся публічна?**

– Могуць звольніць, калі нешта зробіш не па законе ці не будзеш выконваць інструкцыі. Але звольняць не адразу, будзе працэс, дэталёвае разбіральніцтва з абвінавачваннем і магчымасцю абараніць сябе з дапамогай адваката ці прафсаюза. Складаная працэдура. То бок звольніць могуць, але гэта даволі рэдка бывае.

**– Ці існуюць нейкія абмежаванні пенсіённага ўзросту для дзяржслужачых?**

– На некаторых пасадах ёсць, але не ў нас. У нас ёсць такі ўжо старэйшы адзін чалавек, яму 76 гадоў, але ён працуе, дапамагае. Калі трэба нейкія дакументы кудысьці хутка аднесці, ён сядае на ровар і едзе. Любіць сваю працу і можа працаваць, дык чаму не?

**– А як доўга вы плануеце працаваць на гэтай пасадзе?**

– Невядома. Я пачала год таму, дык, думаю, мо гадоў пяць на ёй пасяджу, а тады пагляджу. Можа, з'явіцца нешта цікавае і блізкае, калі не на той самай пасадзе, але ў тым самым дэпартаменце папрацую, яшчэ пагляджу.

## Беларускасць

*Алеся Кіпель з дзяцінства ў беларускім грамадскім жыцці. Яна была ўдзельніцай танцавальнай групы "Васілёк", з якой упершыню ў 1989 годзе прыязджала ў Беласточчыну і ў 1990-м – у Беларусь. Цягам дзесяцігоддзяў Алеся займаецца рэпрэзентацыяй беларусаў у Вашынгтоне, з'яўляецца ўдзельніцай мясцовага аддзела БАЗА.*

**– Супрацоўнікі ў Дзярждэпартаменце ведаюць пра ваша беларускае паходжанне?**

– Так, канечне. У мяне беларускі каляндар у офісе вісіць і татава кніга ляжыць, і сёе-тое там беларускае ёсць, то яны ведаюць. Калі Святлана Алексіевіч прыязджала сюды, мы рабілі прыём для яе ў маёй хаце, і я запрасіла падначаленых мне дырэктароў таксама. Яны прыйшлі, і ім было вельмі цікава.

**– Ваш удзел у беларускім грамадскім жыцці – гэта даніна сямейнай традыцыі ці таксама ўласная патрэба ў гэтым ёсць?**

– Канечне, гэта найперш моцная сямейная традыцыя. У сям'і гэта было такім жа натуральным, як есці, апранацца, – займацца беларускім. Але і мне самой гэта цікава, хочацца нешта зрабіць, каб лепш было для Беларусі, каб Беларусь вярнулася ў Заходнюю Еўропу.

**– Вы добра размаўляеце па-беларуску. Адкуль гэткая мова і як удаецца яе падтрымліваць?**

– Мова з дзяцінства. З бабкамі і дзядамі трэба было па-беларуску размаўляць і з мамай і з татам. Перад тым як пайшлі ў школу, мы па-англійску асабліва не размаўлялі. Толькі ў школе навучыліся па-англійску. У нас была беларуская школка пад царквой, і раз на тыдзень у суботу ці ў нядзелю хадзілі туды на пару гадзін. Трэба было вершы вучыць, крыху нам пра гісторыю расказвалі, давалі мову, граматыку. Нас вучылі настаўнікі і настаўніцы, якія яшчэ ў Беларусі працавалі, сапраўдныя: спадарыня Станкевіч і спадарыня Орса, яны даволі строга нас вучылі. Юрка Станкевіч займаўся з намі больш гісторыяй, Міхась Тулейка таксама вучыў. Пазней, як з'явілася магчымасць ездзіць у Беларусь, то змагла размаўляць і там па-беларуску. Плюс газета "Беларус" выходзіць у нас, і я маю падпіску ды чытаю. Цяпер у нас тут, у Вашынгтоне, беларуская група: Ірына Красоўская, Слава Бортнік, Аркадзь Чарапанскі, Валер Кавалеўскі, Алеся Сёмуха і іншыя, дык мы сябруем і як збіраемся, то па-беларуску размаўляем. Гэта таксама дапамагае трымаць мову.

**– Акрамя беларускай і англійскай якія яшчэ мовы вы ведаеце?**

– Я вывучала ва ўніверсітэце рускую мову. Добра яе разумею. Калі вучылася, дык і добра пісала і чытала. Вывучала таксама французскую мову ў школе і ўніверсітэце, але даўно гэта было. Калі трэба, то магу нешта крыху прачытаць, зразумець. Як еду ў Францыю, уключу тэлебачанне і даволі многа разумею. Нямецкую ніколі не вывучала, але як была па працы ў Нямеччыне два-тры гады, то крыху ёсць запас слоў, хоць граматыку і не ведаю, але паразумецца магу. Польскую крыху разумею і ўкраінскую таксама крыху. Але для мяне ўкраінская цяжэйшая. Людзі кажуць, што яна бліжэйшая да беларускай мовы, чым руская. А для мяне гэта не так. Наогул, у амерыканцаў не надта распаўсюджана традыцыя вывучаць замежныя мовы, на жаль. Лепей было б, калі б болей вучылі. У Еўропе гэтага значна больш, здаецца.

**– А колькі беларусаў у Вашынгтоне?**

– Дакладна не ведаю. У нашым спісе, можа, 60 асоб, але іх тут значна болей. Маладыя прыязджаюць, студэнты ці проста на працу, у многіх рэстаранах афіцыянткі-беларускі. Некаму, можа, і хацелася б мець сувязі з намі, але, магчыма, мы занадта палітычныя для іх, таму не хочуць далучацца…

**– Ці ёсць нешта такое, што вы лічыце важным сваім дасягненнем у палітычнай рэпрэзентацыі беларусаў?**

– Акт аб дэмакратыі ў Беларусі – не першы, праўда, але другі і трэці – мы даволі актыўна прасоўвалі. Таксама тое, што на высокім узроўні колькі мерапрыемстваў зрабілі ў Кангрэсе, у Джорджтаўнскім універсітэце. Важна, што мы на шырокую публіку робім мерапрыемствы і што нас запрашаюць паўсюль. Яшчэ нам пашанцавала, што цяпер ажно пяць беларусаў працуюць на "Голасе Амерыкі".



**На фота**.*Сем'і Кіпеляў і Савёнкаў. Сядзяць (злева направа): Апалонія Савёнак, Зора Кіпель, Марыя Кіпель; стаяць (злева направа): Лявон Савёнак, Юрка, Вітаўт, Алеся і Яўхім Кіпелі. 1960-я гг.*

## Вашынгтон і дом

*Больш за 20 гадоў Алеся Кіпель жыве ва ўласным доме недалёка ад цэнтра Вашынгтона. У пакоях прыгожая, добра падабраная мэбля, шматлікія карціны на сценах і багата кветак. Усё адлюстроўвае зацікаўленні і характар гаспадыні.*

**– Чаму вы выбралі менавіта Вашынгтон для сваёй працы і жыцця?**

– Гэта даволі лёгкі быў выбар для мяне. Мама і тата працавалі ў Нью-Ёрку ў цэнтры Манхэтана. У тыя часы, як я выбірала, куды мне ехаць, Нью-Ёрк быў даволі брудны і не надта бяспечны. Мне падабалася хадзіць там у тэатр, але каб штодзённа ісці на працу – занадта мітуслівы і брудна было для мяне. Таму я ў Нью-Ёрк не хацела. І ў Нью-Джэрсі заставацца таксама. Я ведала, што ні ў якай вёсцы працаваць не буду. У Бостане і Чыкага было для мяне холадна, Філадэльфія ніколі не падабалася, не хацела ехаць і ў Каліфорнію. А Вашынгтон заўсёды мяне цікавіў. Тата ў час, калі Ніксан быў прэзідэнтам, часта ездзіў у Вашынгтон, бо быў актывістам у Рэспубліканскай партыі, дык і я часам з ім ездзіла. Таксама ездзілі на экскурсіі, бо сталіца, дык трэба ж наведваць яе. Тым больш што мама з Мінска, а гэта таксама сталіца. І мне Вашынгтон падабаўся.

Таму, як выбірала, куды пайсці на юрыдычны факультэт, думала, што мне захочацца жыць у Вашынгтоне. У выніку і паехала ў Джорджтаўнскі ўніверсітэт, каб паглядзець, ці спадабаецца мне ў гэтым горадзе. Юрыдычныя справы тут, у Амерыцы, ад штата да штата розняцца. Для працы патрэбна ліцэнзія канкрэтнага штата. Таму найлепей заканчваць юрыдычны факультэт там, дзе думаеш працаваць, бо тады законы гэтага штата будзеш вывучаць і лягчэй ліцэнзію атрымаць. Дык я з гэтай прычыны і пераехала ў Вашынгтон. І мне спадабалася.

**– Тут у вас свая хата і таксама яшчэ лецішча над акіянам. А што для вас *ваш дом*?**

– Месца, дзе ты жывеш. Для мяне вельмі важна, каб выгадна было і прыстойна, і каб можна было хутка да працы дабрацца і да цэнтра горада. Таксама мы тут часта збіраемся нашай суполкай. Калі нейкае мерапрыемства, то ў мяне ці ў Ірыны Красоўскай, часам у Славы Бортніка ці ў Алесі Сёмухі.

**– Ведаю, што ў вашым доме ёсць даволі старая мэбля ад бабкі Марыі Кіпель. Як яна да вас трапіла?**

– Бабка і дзед Кіпелі, як і Савёнкі, пераехалі з Нямеччыны ў Амерыку напрыканцы 1940-х гадоў і пасяліліся ў Нью-Джэрсі. Мелі працу на фабрыках, зараблялі грошы. Бабка Марыя сапраўдная мінчанка была (нарадзілася ў 1904 годзе ў Мінску), у хоры спявала. І як жывеш у сталіцы – гэта ж статус. Яна заўсёды апраналася добра і хацела, каб усё было не як у вёсцы, а як у горадзе. Таму, калі бабка з дзедам зарабілі крыху грошай, купілі мэблю: канапу і два фатэлі такія салідныя, старыя, у стылі дэко. Марыя змяніла абіўку, каб мэбля выглядала як новая. І гэта была вялікая падзея, пра якую яна адмыслова напісала майму тату, які тады вучыўся ў Лювэне ў Бельгіі. Гэтая мэбля была як адзнака сталага жыхарства ўжо ў Амерыцы. І мне тая канапа і фатэлі заўсёды падабаліся, а маме – не надта. Дык як бабка памерла, я мэблю забрала сабе. Замяніла абіўку ўжо пад мой густ, і яна мне ў хаце падабаецца, хоць цяпер ужо больш як сто гадоў мае ўзросту, напэўна. Наогул, гэта нетыпова, каб паваенныя эмігранты мелі такую старую мэблю. Але ж бабка ўжо і набыла яе старою.

**– А ад бацькоў штосьці тут ёсць?**

– Ад бацькоў у мяне стол, што ў сталовай быў у мамы. Таксама маю тут (вісіць каля каміна) ручнік ад прабабкі ці, можа, нават праprабабкі з Палесся. Гэта як мы паехалі на радзіму дзеда Яўхіма ў Байлюкі, дык сваякі выкапалі (нехта быў закапаў) і падарылі мне гэты ручнік вельмі прыгожы. Яшчэ адзін ручнік, які мы на выстаўках часам выкарыстоўваем тут, гэта той, з якім дзед Лявон Савёнак некалі паехаў вучыцца ва ўніверсітэт. Ягоная сястра яшчэ жыла, як мы пачалі ездзіць на Беларусь, цёця Нюта (яна пражыла сто з нечым гадоў), дык яна мне падарыла той ручнік братавы.

Маю шмат кніг, посуд ад мамы і карціны таксама. Бо тата збіраў карціны. Адна вельмі добрая ёсць украінскага мастака Міхаіла Мароза, які пераехаў у Амерыку пасля вайны. Даволі вядомы мастак. Тата неяк дапамог уладкавацца на працу аднаму ўкраінцу, і той падарыў гэтую карціну. А я яе атрымала, калі пераехала ў Вашынгтон. Украінскія сябры, як пабачылі, кажуць: "О, у цябе ёсць карціна Мароза!" То, здаецца, яна вельмі каштоўная.

Таксама маю адзін самавар ад суседзяў Савёнкаў. Нейкі ці то беларус, ці то расіянін жыў побач і, як я была зусім малая, падарыў мне вельмі прыгожы невялікі самавар. Калі ў мяне быў у гасцях спадар Пазьняк, ён паглядзеў і сказаў, што гэты самавар хоць і маленькі, але каштоўны.

## Пра хобі і пра сябе

*З заўсёднай усмешкай Алеся жвава завіхаецца па хаце, робіць усё хутка, дакладна. Як сапраўдная гаспадыня любіць рабіць усё на кухні сама. У адзін з вечароў яна прывезла вялікую жывую ялінку, якую мы разам уладкоўвалі ў вялікім пакоі. Пазней яна будзе сама яе ўпрыгожваць, пад уласны густ.*

**– Пры вашай занятасці ці можна сказаць, што ў вас ёсць хобі?**

– Так, вырошчванне памідораў – гэта хобі. Я люблю чытаць. У нас ёсць кніжны клуб: раз на месяц збіраюцца шэсць жанчын, мы выбіраем кніжку чытаць, тады гутарым пра яе ў чыёйсьці хаце. Таксама катаюся на лыжах, але не так часта, як хацелася б. Збіраю паштоўкі, гэта мне цікава.

Мастацкіх сіл не маю, дык вышываць мне нецікава. Як вучылася, то шыла, але цяпер даўно гэтым не займаюся, бо часу на гэта няма. Але люблю ўсё, што звязана з дызайнам інтэр'ера. Калі б я кінула адвакацкую работу, то пачала б гэтым займацца. Канечне, люблю і ездзіць таксама, хадзіць у музеі.

**– А якія кнігі вы любіце чытаць?**

– Я люблю ўсялякія шпіёнскія раманы і дэтэктывы. І мама таксама любіла. Ёсць больш сур'ёзныя, менш сур'ёзныя. Ёсць цікавыя англійскія аўтары, італьянскія, многа іншых. Выбар вялікі. Што цікава для мяне ў дэтэктывах – гэта як распавядаюць аб мясцовасцях, дэталі: як што выглядае, які пах мае і г.д.

**– Вы казалі, што любіце падарожнічаць. А якія краіны найбольш падабаюцца?**

– Мне надта падабаецца Нямеччына. Я там па працы жыла два-тры гады. І мне падабаецца, бо вельмі лёгка ездзіць, усё вельмі чыста, цягнікі ідуць як трэба. Але там таксама ёсць вялікая разнастайнасць, бо, напрыклад, Гамбург – марскі горад на поўначы, а каля Мюнхена ці ў Рэгенсбургу зусім інакшая атмасфера. А на мяжы з Францыяй таксама вельмі цікава, мне падабаецца, бо там і французскае, і нямецкае адначасова. Іспанія вельмі спадабалася, нават не думала, што так будзе. Уся Еўропа вельмі цікавая.

Па Кітаі хацела б крыху больш паездзіць. Я толькі ў Шанхаі была, у Пекіне і на поўдні ў Ганконгу. Было б цікава паехаць усярэдзіну краіны. У Афрыцы ніколі не была. А ў Амерыцы толькі да Мексікі даехала. Па Мексіцы вандравала, там індзейскія помнікі вельмі цікавыя. А больш на поўдзень яшчэ не даехала, а хацела б. Еўрапейцы прыехалі ў Паўночную і Паўднёвую Амерыку амаль у адзін час, але развіццё на поўдні зусім інакшае. Я хацела б там пабыць, каб пабачыць, як людзі жывуць, і зразумець, чаму гэтая розніца паўстала. У кнігах чытаць – гэта адно, а на ўласныя вочы ўбачыць – зусім іншае.

**– Ці ёсць нейкі чалавек ці герой, на якога вы хацелі б быць падобнай?**

– Гэта цікавае пытанне. Дзіўна, што ніколі пра гэта не падумала. Напэўна, не. Для мяне вельмі важны баланс. Я заўсёды выбіраю, назіраю, ацэньваю добрыя рысы і дрэнныя. Заўсёды стараюся браць найлепшае ад усіх. Але ў кожнага ёсць недахопы.

**– А якія ў вас недахопы?**

– Многа недахопаў. Думаю, што я крыху запатрабавальная да людзей, хачу, каб усё было на самым вышэйшым узроўні. Часам магу рэагаваць захутка, рэзка, пакрычаць крыху, не выслухаць да канца. Думаю, знаёмыя сказалі б, што я занадта крытычна падыходжу да людзей і да таго, што яны робяць.

**– Вы часта канфліктуеце?**

– Не. Зусім нячаста. Я канфліктаў не люблю і хачу як мага хутчэй прыходзіць да кампрамісу. Гэта для мяне важна і ў судовых справах, і ў жыцці.

**– Я заўважыла, што і ў вашага таты, і ў вас, і шмат у каго з эмігрантаў ёсць імкненне нечым паспрыяць іншым эмігрантам ці арганізацыям, у кагосьці нешта купіць, каб падтрымаць, на працу ўзяць, каб дапамагчы. Гэта агульная амерыканская рыса ці менавіта эмігрантаў датычыцца? Ад чаго гэта ідзе?**

– Гэта вельмі амерыканская рыса. Пачалося з першых пасяленняў, калі трэба было дапамагаць іншым у сваім асяродку. Тут усялякія грамадскія арганізацыі існуюць. Гэта тыповае амерыканскае..

*Мы запісвалі гутарку амаль тры гадзіны запар. Гаварылі яшчэ і пра танцавальны гурт "Васілёк", і пра першыя паездкі ў Беларусь, і пра пазнейшыя візіты, і пра сваякоў… Публікацыя поўнага варыянта інтэрв'ю яшчэ наперадзе…*

*У дзень народзінаў Алесі хачу пажадаць ёй, каб яна сёлета зноў адведала Беларусь і, магчыма, паўдзельнічала ў прэзентацыі перавыдання бацькавай кнігі.*

*2017 год у сям'і Кіпеляў удвайне святочны: Алесі – 60, а Вітаўту – 90. Дык няхай жа гэткі супольны юбілей будзе ў іх не апошні!*

**Наталля ГАРДЗІЕНКА.**

ШЧЫМЛІВЫ ЛІСТ

# Я выглядала белай варонай

Каб вы толькі ведалі, у якую непрыгожую сітуацыю трапіла я ў святочныя дні! Запрасіла ў госці старая сяброўка. А да яе прыехалі сваты з Польшчы. Пасядзелі за сталом, выпілі, пагаманілі, а нехта вазьмі і прапануй: давайце паспяваем. І загучалі застольныя песні. І польскія, і беларускія.

Усе бралі ўдзел у імправізаваным канцэрце, акрамя мяне і яшчэ двух чалавек. Сорамна прызнацца, але мы не ведалі на памяць слоў ніводнай песні, якія гучалі. Некалі па радыё чула іх выкананне, але ж ужо многа гадоў і кропкі ў кватэры няма.

Ды што і казаць, белай варонай выглядала я ў той вечар перад гасцямі маёй сяброўкі. Калі вярталася дахаты, падумалася: у многіх з нас знікае беларускі дух, і гэта недаравальна. Таму хачу звярнуцца да рэдакцыі газеты "Народная Воля" з прапановай: завядзіце спецыяльную рубрыку, пад якой няхай рэгулярна з'яўляюцца тэксты застольных песень беларусаў. І старэйшым людзям нялішне нагадаць, і моладзь вывучыць іх словы.

**Антаніна ГАЎРЫЛКІНА.**

*Гродна.*

АД РЭДАКЦЫІ

## Прымаем Вашу прапанову, спадарыня Антаніна

**Ліст спадарыні А.Гаўрылкінай навёў на роздум: сапраўды, у многіх з нас знікае беларускі дух. У тым ліку і з-за таго, што ў тысячу разоў часцей гучыць расійская папса, чым нашы нацыянальныя песні. А яны ж могуць упрыгожыць любое застолле!**

**Прымаем Вашу прапанову, спадарыня Антаніна, і адкрываем рубрыку "ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ". Сёння друкуем словы песні "Касіў Ясь канюшыну" – запамінайце і спявайце!**

**Рубрыка "Для вясёлай кампаніі" будзе з'яўляцца ў "Народнай Волі" па аўторках.**

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## Касіў Ясь канюшыну

*Словы і музыка народныя*

Касіў Ясь канюшыну, *(3 разы)*
Паглядаў на дзяўчыну.

А дзяўчына жыта жала, *(3 разы)*
Ды на Яся паглядала.

Ці ты Ясь, ці ты не? *(3 разы)*
Спадабаўся ты мне.

Кінуў Яська касіць, *(3 разы)*
Пачаў мамку прасіць:

– Ці ты мамка, ці не? *(3 разы)*
Ажані ж ты мяне!

Усе людзі жонак маюць, *(3 разы)*
Абдымаюць і кахаюць.

Каб я жоначку меў, *(3 разы)*
То б не піў і не еў.

– Дык бяры ж Станіславу, *(3 разы)*
Каб сядзела на ўсю лаву.

– Станіславу не хачу, *(3 разы)*
Бо на лаву не ўсаджу.

– Дык бяры ж ты Яніну – *(3 разы)*
Працавітую дзяўчыну.

Узяў!

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ



Алесь СІВЫ

# А суддзі хто?

Тыя, хто сачыў за справай былога дырэктара дэпартамента судзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола Андрэя Жукава, чакалі, чым яна закончыцца.

Нагадаем, Жукава затрымалі летам гэтага года наўпрост на працоўным месцы. На думку абвінавачання, за прызначэнне суддзяў на пэўныя матчы футбольны функцыянер браў хабары. Праўда, іх памер зусім не ўражвае – 100 долараў, 100 еўра, 50 рублёў і бутэлька каньяку… У сукупнасці памер хабараў не дацягваў нават да тысячы "зялёных".

Але прысуд, які быў вынесены яму днямі, шчыра кажучы, шакіраваў. Суд Цэнтральнага раёна Мінска асудзіў былога дырэктара дэпартамента судзейства і інспектавання Беларускай федэрацыі футбола да 5 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і канфіскацыі маёмасці! Пры тым, што Жукаў кампенсаваў шкоду, якая, як аказалася, склала аж 912 беларускіх рублёў.

Ніхто, безумоўна, не апраўдвае дзеянні Жукава, але мне падумалася: калі яму далі 5 гадоў зняволення ў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці за некалькі соцень долараў хабару, то колькі тады павінны былі "адмераць" у 2005 годзе былому кіраўніку спраў прэзідэнта Галіне Жураўковай? Можа быць, вышэйшая мера альбо пажыццёвае пакаранне "свяціла" Галіне Анісімаўне за тое, што яна "ўступіла ў злачынную змову" і скрала ў дзяржавы больш за 3 мільёны (!) долараў, што і прызнаў суд?

Не дачакаецеся! 12 гадоў таму Жураўкова была асуджана Вярхоўным судом да 4 гадоў пазбаўлення волі з адбыцём пакарання ў калоніі агульнага рэжыму і канфіскацыяй маёмасці. Калі праводзіць паралелі з Жукавым, адчуваеце розніцу? І больш за тое! Памятаю, што Жураўкову, якая нават не прысутнічала на агалошванні прысуду, я знайшоў у адным з катэджаў у цэнтры Мінска.

"Мне зрабілі аперацыю, пасля якой сядзець цяжка", – заявіла яна мне тады, быццам здзекуючыся з беларускага правасуддзя.

А дзесьці праз год і наогул стала вядома, што высокая чыноўніца за кратамі нават і не была. Дзяржаўная служачая, якая скрала больш за 3 мільёны долараў дзяржаўных грошай, аказваецца, заслужыла памілаванне ад кіраўніка краіны. Ёсць звесткі, што ў апошні час Жураўкова працуе ў Маскве і нядрэнна пачуваецца. Як кажуць, прывітанне ўсім з Белакаменнай!

Старшыня канцэрна "Белнафтахім" Аляксандр Бароўскі быў затрыманы ў маі 2007 года. У сакавіку 2008 года Вярхоўны суд прызнаў яго вінаватым у злоўжыванні службовымі паўнамоцтвамі, што нанесла істотны ўрон дзяржаве. Бароўскага асудзілі да 5 гадоў пазбаўлення волі, а таксама на 3 гады пазбавілі права займаць кіруючыя пасады ў дзяржаўных арганізацыях і на прадпрыемствах. Напрыканцы снежня 2008 года Бароўскі быў памілаваны, а праз год Лукашэнка даў згоду на прызначэнне былога зняволенага генеральным дырэктарам буйнога прадпрыемства – ПА "БелаўтаМАЗ".

У мінулым годзе былы першы намеснік генпракурора краіны Аляксандр Архіпаў, які злоўжываў службовым становішчам, атрымліваў хабар і быў асуджаны да 6 гадоў пазбаўлення волі, нечакана апынуўся не проста на волі, а яшчэ і на пасадзе дырэктара сельгаспрадпрыемства.

Не так даўно быў памілаваны прэзідэнтам сенатар і ўладальнік групы кампаній «Біякам» Андрэй Паўлоўскі. Паводле слоў старшыні КДБ Валерыя Вакульчыка, бізнесмен кампенсаваў нанесеную шкоду ў суме 20 млн долараў і быў вызвалены ад крымінальнай адказнасці.

Толькі на пачатку 2016 года кіраўнік краіны вярнуў на кіруючыя пасады чатырох асуджаных за карупцыю функцыянераў, якім, згодна з беларускім заканадаўствам, забаронена іх займаць.

Вось такія яны – зігзагі лёсу і кар'ернай лесвіцы ў Беларусі! Да розных людзей – розныя падыходы. Каб і накраў на мільёны долараў альбо хаця б на сотні тысяч – гэта іншая справа. Складваецца ўражанне, што да такіх людзей у дзяржавы асаблівая любоў і пільны інтарэс. А таму, калі "гаманцы" і трапляюць за краты, як паказвае практыка, доўга там не затрымліваюцца. Куды там Жукаву з яго кампенсацыяй у 912 рублёў! Яму ў сілу яго былой прафесійнай дзейнасці можна толькі закрычаць: "А суддзі хто?!"

ГАСТРОЛЬ

Дмитрий ГОРБАЧУК:

# «Едем с отличнейшим настроением!»

*С 12 по 27 января симфонический оркестр Большого театра Беларуси отправляется на гастроли по крупнейшим городам Германии с грандиозным туром, в программе которого – музыка Джона Уильямса из известнейших кинофильмов и телесериалов.*

– Наши гастроли как бы поделены на две части: сначала в январе отправимся в Германию, вернемся домой, а в апреле – снова в путь, – *рассказывает заведующий труппой оркестра* ***Дмитрий Горбачук***. – Пока нас ждут жители больших городов – Берлина, Штутгарта, Кёльна, Лейпцига. Причем огромные арены, рассчитанные на 10–15 тысяч зрителей! И площадки обязывают – это будут грандиозные шоу-программы, в которых будет править бал музыка легендарного Джона Уильямса. На сцене – оркестр и, конечно, дирижер, а на больших экранах будут проецироваться отрывки из фильмов, произведения из которых и прозвучат. Подобные программы пользуются огромной популярностью у европейского зрителя, поэтому в зале никогда не бывает свободных мест – всегда аншлаг!

Это безумно интересный проект, куда мы собираемся с удовольствием. Честно признаться, даже не верится, что нам сделали такое предложение. Хотя в прошлом году мы ездили в подобный тур с Хансом Циммером, и он отзывался о нас только в превосходной степени. Что, безусловно, приятно. Но на этот раз мы едем целым симфоническим оркестром – 70 человек! И пусть минские зрители не волнуются. Оркестр Большого театра Беларуси действительно большой – наши численные возможности позволяют нам уехать в таком составе. И столько же хороших музыкантов остается в театре, как и прежде, дарить каждый вечер радость публике.

Едем с отличнейшим настроением! Ведь артист должен быть в постоянном поиске новой творческой созидательной энергии. Когда музыкант сидит на одном месте, он перестает развиваться – превращается в ракушку. Путешествия – это профессиональные знакомства, общение, в какой-то мере обучение. Ведь артист возвращается с определенным багажом новых знаний и мировых тенденций. Поверьте, в исполнительской игре сделан колоссальнейший прорыв! Какие программы играются на международных конкурсах, какая пишется уникальная музыка – несколько лет назад в такое сложно было поверить!

ИНТЕРЕСНО

Сейчас Джону Уильямсу, обладателю пяти «Оскаров» и 21 награды «Грэмми», – 84 года. Британскому изданию «Зеркало» композитор рассказал, что создание музыки, а особенно для оркестра, – это огромный труд, который требует одиночества. Кстати, ноты для своих произведений он всегда записывает карандашом.

**Даша ПАВЛОВСКАЯ.**

ВЫСТАВА

# Можна не толькі палюбавацца, але і купіць

У Музеі сучаснага мастацтва ў Мінску адкрылася Міжнародная выстава аўтарскай лялькі «Панна Долья». Рэдкі выпадак: экспанатамі можна не толькі любавацца, але пры жаданні і набыць іх.

Фантастычныя творы мастацтва! Нерэальныя па сваёй задумцы лялькі. Супер! Якія толькі кампліменты не выказваюць наведвальнікі выставы! А лялькі сапраўды розныя, незвычайныя: з тэкстылю, дрэва, фарфору. Адным словам, аўтарскія, непаўторныя творы.

– Работы часам настолькі нечаканыя, што ў наведвальнікаў тут жа ўзнікае жаданне іх набыць, – кажуць у музеі. – Але, безумоўна, лялькамі мы не гандлюем. Адзінае, можам дапамагчы з кантактамі аўтара. А далей ужо чалавек сам вядзе з ім перамовы.

Прыблізны кошт аўтарскай лялькі ў музеі не называюць. «Работы прымаліся без ацэнкі, таму ўсё, што тычыцца кошту, – гэта да аўтара».

На выставе, дарэчы, прадстаўлены работы не толькі лепшых майстроў Беларусі, свае лялькі на мінскую выставу прывезлі творцы з Расіі, Украіны, Польшчы. Сярод аўтараў і члены Беларускага саюза мастакоў, і проста адораныя людзі.

Працаваць «Панна Долья» будзе да 4 лютага.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**



ШАШКІ

## Творчасць чэмпіёна свету

Мы паведамлялі вынікі чэмпіянату свету па шашачнай кампазіцыі PWCP-VI. На гэты раз прапануем пазнаёміцца з творчасцю чэмпіёна **Аляксандра Маісеева** (ЗША). Аляксандр з'яўляецца членам міжнароднай камісіі па шашачнай кампазіцыі (CPI). Ён таксама чэмпіён свету па чэкерсе – амерыканскіх шашках. На дыяграме **№1** прадстаўлена дамачная праблема чэмпіёна, якую ён даслаў на конкурс "Беларусь-2016". На дыяграме **№2** – эндшпіль другой праблемы гэтага конкурсу, якая дадзена ў натацыі.

№1 №2

**№1** 18, 5, 1, 21, 50, 26:37, 39, 22(28**A**), 2(35:24**B**), 35, 36 x **A**(18), 42(15:24**C**), 15, 6 x.

**B**(15:24), 15, 36 x **C**(35:24), 35, 6 x. Уражвае, з якой лёгкасцю Аляксандр атрымаў 4(!) нулявыя фіналы, абагаціўшы іх цікавай уступнай камбінацыяй.

**№2 Белыя**: 7, 11, 12, 15, 17, 21, 23, 24, 27, 29, 35, 37, 38, 41, 42, 43, 48, 50 (18). **Чорныя**: 1, 13, 14, 18, 19, 20, дамкі 25, 26, 30, 33, 46 (11).

39, 39, 39(28), 32(12), 10(26:12:43), 39(25:37:6**AB**), 22, 10, 15 x **A**(5), 10, 15 x. **B**(25:31:6), 4, 18(33), 1(39), 28, 34, 24, 24 x. Пасля прыгожай камбінацыі паказаны не менш прыгожы эндшпіль, у якім тры розныя варыянты бою чорнай дамкі прыводзяць да трох розных варыянтаў гульні.

Цікава адзначыць, што продкі чэмпіёна па лініі маці – з Беларусі. Яго прадзед быў купцом другой гільдыі, а дом дзеда ў Невелі ў савецкі час заняў гаркам партыі.

## Новыя творы нашых чытачоў

Працягваючы тэму дамачных праблем, прапануем новыя творы **Дзмітрыя Камчыцкага** з Магілёва.

№3 **Белыя**: 8, 14, 19, 20, 24, дамка 3 (6).

**Чорныя**: 5, 7, 13, 25, 29, 33, 34, дамка 46 (8).

3–9, (4**A**), 13, 3, 2, 9, 4 x. **A**(2), 13, 3, 22, 8, 1 x.

№4 **Белыя**: 16, 27, 34, 38, 42, дамка 36 (6).

**Чорныя**:18, 19, 24, 37, 44, дамка 49 (6).

39, (42**A**), 29, (33**B**), 47, 31, 27 x. **B**(21), 27, 22, 47 x.

**A**(21), 27, 30, 22, 26/31, 17, (45), 50 x.

№5 **Белыя**: 42, дамкі 48, 50 (3).

**Чорныя**: 8, 18, 19, 23, 33, 39, 43, 44 (8).

38, (32**A**), 29, 2 x. **A**(42), 3, (43), 39, 14, (29), 20 x.

№6 **Белыя**: 42, дамкі 48, 50 (3).

**Чорныя**: 6, 18, 23, 24, 33, 39, 43, 44, дамка 9 (9).

38, (42**A**), 3, (43), 11, 49 x. **A**(32), 29, 3 x.

№7 **Белыя**: 42, дамкі 48, 50 (3).

**Чорныя**: 7, 18, 20, 23, 24, 33, 43, 44, дамка 39 (9).

38, (32**A**), 43:25:28, 2 x. **A**(42), 25, (6**B**), 25-39, 2 x. **B**(48), 39, (30), 1 x.

Эцюды па рускіх шашках даслаў у рэдакцыю мінчанін **Леанід Рыбакоў**. Прапануем разгледзець найбольш цікавы з іх. Два іншыя супалі з эцюдам Б.Бліндэра ("64", №19, 1929 год) і С. Кісялева ("Шашкі", №5, 1975 год).

№8 **Белыя**: a7, d2, дамка h6 (3).

**Чорныя**: a3, b4, d4, d6 (4).

b8(e5**A**), h2(dc3**B**), de3(cb2), h6-f4 (c1**CD**), h6, a5, c3, f4(c3), c1 x. **C**(c3), d4, a1 x. **D**(a1), d4, e5 x. **A**(c5), g7(e3, d4), a5, c3, fe5 x. **B**(e3, b2), g7(c3**F**), d4, a1 x. **F**(a1), b2/d4, a3 x.

Для самастойнага рашэння прапануюцца пазіцыі вядучага рубрыкі. Знайдзіце выйгрыш белых.

№9 **Белыя**: b4, d4, дамка c5 (3).

**Чорныя**: d2, d8, f2, f8, дамка a3 (5).

№10 **Белыя**: b6, d2, f4, f6 (4).

**Чорныя**: a5, b4, e3, f2, h6 (5).

№11 **Белыя**: b2, c1, d4, d6, e5, e7, g3 (7).

**Чорныя**: a3, a5, b4, b6, f4, g7, h2, h8 (8).

№12 **Белыя**: b2, b4, c3, c7, d4, e1, h4 (7).

**Чорныя**: a5, b6, d2, d8, f2, g5 (6).

На заканчэнне – праблемы мінчаніна **Івана Наўроцкага** з нулявым фіналам.

№13 **Белыя**: 21, 24, 25, 30, 34, 37, 42, 47 (8).

**Чорныя**: 9, 12, 16, 18, 28, 32, 35, 36, 43 (9).

41, 29(41**A**), 23, 3(27**B**), 13, 48 x. **B**(24), 36, 48 x. **A**(27), 23, 3(24), 47, 48 x.

№14 **Белыя**: 16, 23, 27, 28, 29, 32, 38, 40 (8).

**Чорныя**: 7, 8, 9, 12, 14, 19, 20, 31, 35 (9).

24, 23, 11, 4, 50 x.

№15 **Белыя**: 13, 18, 20, 24, 30, 39, 44, 49 (8).

**Чорныя**: 11, 22, 27, 28, 33, 35, 38, 41 (8).

43, 34, 14, 4(13**A**), 15, 6 x. **A**(24), 15, 46 x.

№16 **Белыя**: 11, 21, 30, 31, 34, 36, 40, 49 (8).

**Чорныя**: 6, 13, 14, 19, 22, 32, 38, 45 (8).

24, 31, 44, 39, 20 x.

№17 **Белыя**: 17, 19, 20, 21, 24, 29, 43 (7).

**Чорныя**: 8, 12, 15, 18, 26, 32, 37 (7).

38, 13, 8, 3, 35 x.

## Супаставім рашэнні

Рашэнне пазіцый "НВ" ад 30.08.2016.

№3 c3, fe7, d8, a1(f4), f2 x.

№4 d6(g7), f6, d2, e3, a1 x.

Дакладныя адказы даслалі: **Аляксандра Камінская** (Вілейка)**, Юрый Голікаў** (Цвер, Расія), **Віталь Варушыла**, **Іван Наўроцкі, Альберт Ліцвінаў** (Мінск), **Аляксандр Шурпін** (Івянец), **Уладзімір Бандарык** (в. Лугавая Слабада Мінскага раёна), **Мікалай Зайцаў** (Баранавічы), **Рыгор Краўцоў** (в.Рублеўск Круглянскага раёна), **Уладзімір Валчкоў** (Маладзечна), **Леанід Жыхар, Фёдар Карпей** (Мядзел), **Уладзімір Сергіеня** (в.Войкава Уздзенскага раёна), **Ігар Ананіч** (Гродна), **Аляксандр Голуб** (п.Талька Пухавіцкага раёна), **Уладзімір Панько** (Камянец).

Дзякуем за лісты і спадзяёмся на вашу далейшую актыўнасць!

Свае лісты дасылайце на адрас: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а, "Шашкі"

або на электронны адрас рэдакцыі: saf20016@yandex.ru, shulga.checkers@gmail.com.

**Віктар ШУЛЬГА,**
**міжнародны майстар спорту па шашачнай кампазіцыі.**

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 10.01.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 020 экз. Заказ № 76.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

# Народная Воля — 2017

## Праваслаўны каляндар

*Пасхалія (паводле новага стылю)*
**Масленіца – 20–26 лютага.**
**Вялікі пост – 27 лютага – 15 красавіка.**
**Вербная нядзеля – 9 красавіка.**
**Пасха (Вялікдзень) – 16 красавіка.**
**Узнясенне – 25 мая.**
**Пяцідзясятніца (Тройца, Сёмуха) – 4 чэрвеня.**
**Пятроў пост – 12 чэрвеня – 11 ліпеня.**

***Двунадзясятыя непераходныя святы***
**7 студзеня, субота,** – Раство Хрыстова.
**19 студзеня, часцвер,** – Хрышчэнне Гасподняе.
**15 лютага, серада,** – Грамніцы (Спатканне Гасподняе).
**7 красавіка, пятніца,** – Дабравешчанне Прасвятой Багародзіцы.
**19 жніўня, субота,** – Праабражэнне Гасподняе.
**28 жніўня, панядзелак,** – Прачыстая (Дзень смерці Прасвятой Багародзіцы).
**21 верасня, чацвер,** – Нараджэнне Прасвятой Багародзіцы.
**27 верасня, серада,** – Узвіжанне Крыжа Гасподняга.
**4 снежня, панядзелак,** – Увядзенне ў храм Прасвятой Багародзіцы.

***Двунадзясятыя пераходныя святы***
**9 красавіка, нядзеля,** – Уваходжанне Госпада ва Іерусалім (Вербная нядзеля).
**25 мая, чацвер,** – Ушэсце Гасподняе.
**4 чэрвеня, нядзеля,** – Дзень Святой Тройцы. (Пяцідзясятніца, Сёмуха).

***Вялікія святы***
**14 студзеня, субота,** – Абразанне Гасподняе і памяць Свц. Васілія Вялікага.
**7 ліпеня, пятніца,** – Нараджэнне Іаана Прадцечы.
**12 ліпеня, серада,** – Святых першавярхоўных апосталаў Пятра і Паўла.
**11 верасня, панядзелак,** – Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы.
**14 кастрычніка, субота,** – Пакрыва Прасвятой Багародзіцы.

***Іншыя святы***
**25 чэрвеня, серада,** – Сабор Беларускіх святых.
**29 кастрычніка, нядзеля,** – Сабор Новапакутнікаў Беларускіх

***Шматдзённыя пасты***
Вялікі пост – з 27 лютага да 15 красавіка.
Пятроў пост – з 12 чэрвеня да 11 ліпеня.
Успенскі пост – з 14 па 27 жніўня.
Пост перад Раством Хрыстовым (Піліпаў пост) – з 28 лістапада да 6 студзеня 2017 года.

***Аднадзённыя пасты***
Серада і пятніца на працягу ўсяго года, за выключэннем усёедных тыдняў і Каляднага перыяду.
Навячэр'е Богаяўлення – 18 студзеня.
Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы – 11 верасня.
Узвіжанне Крыжа Гасподняга – 27 верасня.

***Усёедныя тыдні (па серадах і пятніцах посту няма)***
Калядны перыяд – з 7 па 17 студзеня.
Мытара і фарысея – з 6 па 12 лютага.
Сырны (Масленічны) – з 20 па 26 лютага.
Пасхальны (Светлы) – з 16 па 22 красавіка.
Траецкі – з 5 па 11 чэрвеня.

***Трапеза ў святы***
Паводле Царкоўнага статута, у святы Раства Хрыстовага і Богаяўлення, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, посту няма. У Навячэр'е Раства Хрыстовага, Навячэр'е Богаяўлення, у святы Узвіжання Крыжа Гасподняга і Адсячэнне галавы Іаана Прадцечы дазваляецца ежа з алеем. У святы Спаткання Гасподняга, Праабражэння Гасподняга, Успення, Нараджэння і Пакрыва Прасвятой Багародзіцы, Увядзення Яе ў храм, Нараджэння Іаана Прадцечы, апосталаў Пятра і Паўла, Іаана Багаслова, калі яны прыпадаюць на сераду і пятніцу, а таксама ў перыяд ад Пасхі да Сёмухі (Тройцы) у сераду і пятніцу дазваляецца рыба.

***Дні асаблівага памінання спачылых***
Субота мясапусная – 18 лютага.
Субота 2-га тыдня Вялікага посту – 11 сакавіка.
Субота 3-га тыдня Вялікага посту – 18 сакавіка.
Субота 4-га тыдня Вялікага посту – 25 сакавіка.
Радаўніца – 25 красавіка.
Памінанне спачылых воінаў – 9 мая.
Субота Траецкая – 3 чэрвеня.
Субота Дзімітрыеўская – 28 кастрычніка.

***Не адпраўляецца вянчанне***
Напярэдадні серады і пятніцы ўсяго года (г. зн. па аўторках і чацвяргах).
Напярэдадні нядзельных дзён (г. зн. па суботах).
Напярэдадні двунадзясятых, храмавых і вялікіх святаў.
На працягу пастоў Вялікага, Пятровага, Успенскага і посту перад Раством.
На працягу Каляднага перыяду (з 7 да 19 студзеня).
На працягу Сырнага тыдня (Масленіцы), пачынаючы з Нядзелі мясапуснай, і ў Нядзелю сырапусную.
На працягу Пасхальнага (Светлага) тыдня.
У дні і напярэдадні Адсячэння галавы Іаана Прадцечы – 11 верасня і Узвіжання Крыжа Гасподняга – 27 верасня.

## Іўдзейскія святы і пасты

**11 лютага** – Ту бі-Шват (Новы год дрэў).
**25 лютага** – Свята ў гонар царыцы Эстэр.
**9 сакавіка** – Пост Эстэр.
**12 сакавіка** – Пурым, свята ў памяць аб цудоўным выратаванні іўдзеяў у Персідскім царстве.
**11–18 красавіка** – Песах, свята ў гонар выхаду ізраільцян з Егіпта.
**23 красавіка** – Дзень Катастрофы і Гераізму.
**14 мая** – Лаг ба-Омер.
**31 мая – 1 чэрвеня** – Шавуот (свята ў памяць Даравання Торы ізраільцянам на Сінаі).
**7 жніўня** – Пост "Цішэ-беоў" (9 ава) у памяць разбурэння Храма вавіланянамі і рымлянамі.
**21–22 верасня** – Рош а-Шана (Новы год), дзень Суда і Літасці Усемагутнага.
**30 верасня** – Ём Кіпур (дзень Усеагульнага прабачэння, посту і малітвы).
**5–12 кастрычніка** – Сукот (свята ў памяць Паходу ізраільцян у пустэльні).
**13 кастрычніка** – Сімхат-Тора, завяршэнне восеньскіх святаў і пачатак новага чытання тыднёвых раздзелаў Торы.
**13–20 снежня** – Ханука (свята ў памяць вызвалення Храма з рук грэкаў і здраднікаў, ачышчэння пасля апаганьвання і новага асвячэння Храма).

## Каталіцкі каляндар

**1 студзеня** – Святой Маці Божай Марыі.
**6 студзеня** – Аб'яўленне Пана (Тры Каралі).
**8 студзеня** – Хрост Пана.
**2 лютага** – Ахвяраванне Пана.
**11 лютага** – Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда.
**1 сакавіка** – Папялец (пачатак Вялікага посту).
**16 сакавіка** – Гадавіна пасвячэння архікатэдры ў Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі: гадавіна пасвячэння катэдральнага касцёла (Мінск).
**20 сакавіка** – Святога Юзафа, абранніка Найсвяцейшай Панны Марыі.
**25 сакавіка** – Звеставанне Пана.
**9 красавіка** – Пальмавая нядзеля.
**13 красавіка** – Вялікі чацвер.
**14 красавіка** – Вялікая пятніца.
**15 красавіка** – Вялікая субота.
**16 красавіка** – Вялікдзень (Пасха).
**23 красавіка** – Божай Міласэрнасці.
**25 мая** – Унебаўшэсце Пана.
**4 чэрвеня** – Спасланне Духа Святога.
**8 чэрвеня** – Пана нашага Езуса Хрыста, Найвышэйшага і Вечнага Святара.
**11 чэрвеня** – Найсвяцейшай Тройцы.
**15 чэрвеня** – Найсвяцейшага Цела і Крыві Пана.
**23 чэрвеня** – Найсвяцейшага сэрца Езуса.
**24 чэрвеня** – Нараджэнне Яна Хрысціцеля. Беззаганнага Сэрца Найсвяцейшай Панны Марыі.
**29 чэрвеня** – Святых апосталаў Пятра і Паўла.
**2 ліпеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай.
**16 ліпеня** – Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль.
**6 жніўня** – Перамяненне Пана.
**15 жніўня** – Унебаўзяцце Найсвяцейшай Панны Марыі.
**22 жніўня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Каралевы.
**8 верасня** – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.
**12 верасня** – Найсвяцейшага Імя Марыі.
**14 верасня** – Узвышэнне Святога Крыжа.
**15 верасня** – Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.
**29 верасня** – Святых Арханёлаў.
**7 кастрычніка** – Маці Божай Ружанцовай.
**1 лістапада** – Усіх Святых.
**2 лістапада** – Успамін усіх памерлых вернікаў.
**16 лістапада** – Найсвяцейшай Панны Марыі Міласэрнасці.
**21 лістапада** – Ахвяраванне Найсвяцейшай Панны Марыі.
**26 лістапада** – Хрыста Валадара Сусвету.
**3 снежня** – 1-я нядзеля Адвенту.
**8 снежня** – Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі.
**25 снежня** – Нараджэнне Пана.
**31 снежня** – Святой Сям'і.

## Мусульманскія святы і знамянальныя даты

**30 сакавіка** *(3 раджаб)* – Жаніцьба бацькоўй Прарока.
**23 красавіка** *(27 раджаб)* – Ноч ушэсця Прарока.
**10 мая** *(14 шаабан)* – Ноч ачышчэння ад грахоў (Лейлят аль-Бараа).
**27 мая** *(1 рамадан)* – Пачатак посту Рамадан (Ураза).
**21 чэрвеня** *(26–27 рамадан)* – Ноч Прадвызначэння (Ляйлят аль-кадр).
**21 чэрвеня** *(1 шаваль)* – Свята разгавення (Ураза-Байрам).
**31 жніўня** *(9 зуль-хіджа)* – Дзень стаяння на гары Арафат.
**1 верасня** *(10 зуль-хіджа)* – Свята ахвярапрынашэння (Курбан-Байрам).
**21 верасня** *(1 мухарам)* – Пачатак 1439 года па Хіджры.
**30 верасня** *(10 мухарам)* – Дзень Ашура (дзень памінання прарокаў і пасланнікаў Алаха).
**29 лістапада** *(11–12 рабі аль-аваль)* – Ноч нараджэння Прарока Мухамада (Маўлід ан-Набі).